

З Раздждаством Хрыстовым!

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



XIII «Падляшша ў аб'ектыве» → 8

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 01 (3217) Год LXIII | Беласток, 07 студзеня 2018 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

**Магло б здавацца, што невялікі Ячанскі прыход, які з аднаго боку адцінае рака Бобра, з другога — польска-беларуская мяжа, расплываецца на фоне тых бліжэйшых і зручнейшых для наведвання. Аднак як мінулы год, так і надыходзячы даказваюць, што клопат і памяць пра незвычайную гісторыю паўстання прыхода, мацнейшыя за дэмаграфічныя праблемы ці нязручную лакалізацыю. Жыхары не хаваюць гонару з аднаўлення купалаў царквы, таму што царква гаворыць таксама пра іх. Клапоцяцца не толькі, каб была рамантаваная, але таксама... жывая.**

# Каб царква не была пустая



## Наша царква гарэла спакойна. Як свечка

У 1985 года на Кузьмы і Дзям'яна пачала гарэць царква ў Ячне. Было ціха і бязветрана. Спакойна настолькі, што ніхто з жыхароў хатак, якія стаяць некалькі метраў ад царквы, нічога не падазраваў, не пачуў.

— Яшчэ ўладыка даехаў у Саколку ад нас і ўжо яму сказалі, што гарыць царква, — успамінае Зоя Беламызы.

— Пасля поўдня, а чацвёртай гадзіне пачала гарэць, — дадаў Зоін муж, Мікалай.

Святой памяці айцец Рыгор Сасна ў сваёй кніжцы «Święte miejsca i cudowne ikony» пісаў, што першыя звесткі пра Ячанскую царкву паходзяць з XVI стагоддзя: «W czasie pomiary włócznej za panowania królowej Bony wymieniono Jaczno z cerkwią (1540 r. wspomniany pop zasidrański)».

Да старой драўлянай царквы людзі былі вельмі прывязаныя. Тым больш, што паводле мясцовых, сама Божая Маці выбрала гэтае месца. (пісалі аб гэтым: *Ячна патрабуе падтрымкі*, «Ніва» № 03 (3166), год LXII). Царква пачала гарэць унутры. Не было агню, не было відаць і дыму.

— Уявіце сабе, што дрэвы, якія навокал царквы, не згарэлі. Адно толькі асмаліліся, — кажа спадарыня Зоя. — Ніводнае. У нас так царква гарэла, як у найпрыгажэйшую пагоду, або як у хаце запаліць свечку. Яна гарэла як свечачка. Ніводная іскра на бок не пайшла. І як вялікія пажары, тады пераважна вецер. Не было ні ветрыньні! Ані, ані...

— Толькі смальнякі засталіся... — сумна дадае **Мікалай Беламызы**.

— Смальнякі, але таксама не згарэлі ноты. Звычайныя сшытачкі ацалелі.

## Будуючы спеў

Вельмі важным элементам літургіі, інтэгральнай часткай святых абрадаў з'яўляецца спеў. Мэтай літургічнай музыкі з'яўляецца таксма пабудова супольнасці вернікаў. Гэта аўтэнтычнае мастацтва, накіраванае на святасць і культ. Менавіта ў цэрквах прыхадскія хары ўчыняюць літургію непаўторным зваротам да Бога. Тым больш, што найчасцей такія хары засяроджваюць сапраўдных энтузіястаў, якім традыцыя царкоўнага спеву перадавалася з пакалення ў пакаленне. У Ячанскім прыходзе такой асобай з'яўляецца Зоя Беламызы.

— У мяне мама была пеўчай і мела вельмі добры голас. У нас, дзяцей, можа ўжо не так прыгожыя галасы як у маці, але таксама ўмеем спяваць, — кажа Зоя Беламызы. — У нас пасля Вілеі да самой Усяночнай мы спявалі калядкі. На цэлую вёску было чуваць! Людзі гаварылі, што хата амаль разрывалася ад спеву (*смех*). У нас у царкве файна спяваюць песню «Неба і зямля». На два галасы: дысканты пачынаюць, а пазней уваходзяць басы, але сходзімся разам на канец (*смех*).

## Адзінства праз царкву

У Ячанскай парафіі, якая сёння аб'ядноўвае перш за ўсё пажылых прыхаджан, абрад калядавання вярнуў маладзы бацюшка **айцец Пятро Ганчарук**. У мінулым годзе супольна з групай калядніко ў пайшоў па прыдуброўскіх вёсках з мэтай сабраць грошы на неабходны рамонт купалаў царквы.







■ Айцец Пятро Ганчарук і Мікалай Беламызы

— Адрамантавалі мы купалы царквы, якімі сёння можам цешыцца. Не цячэ на галаву. Арганізавалі мы шэраг мерапрыемстваў, у час якіх мы збіралі грошы на рамонт. Пачалося ўсё з дабрачыннага балю, быў хрысціянскі з'езд матацыклістаў, аўкцыёны, летнік для дзяцей... Удалося.

Дзякуючы рамонту, вада не працякае, не мочыць цікавых фрэсак, распісаных народным мастаком з Ружанастока Тадэвушам Мажэйкам.

Паколькі першая таго тыпу акцыя прынесла карысць і задавальненне ўсіх прыхаджан, сёлета бацюшка Пятро Ганчарук хоча сарганізаваць падобную.

— У мінулым годзе мы арганізавалі дабрачынны баль, грошы ад якога былі адведзены на рамонт купалаў царквы. Сёлета 2 лютага таксама запрашаем на баль — гэтым разам хочам назбіраць грошы на аднаўленне храма звонку. Гэтым разам супольна будзем бавіць час у Кузніцы-Беластоцкай у зале «Бона».

Падаваць заяўкі на дабрачынны баль можна да канца студзеня. Кошт ад аднаго чалавека — 130 злотых. Ахвотныя могуць непасрэдна званіць на нумар прыхода (85 712 81 81), або пакарыстацца фейсбукам, на якім можна знайсці старонку парафіі.

Клопат пра купалы ці фасад вызваліла пачуццё быцця Царквой. Напэўна гэта будзе перакладацца і на духоўнае жыццё, таму што рамонты маюць сэнс, калі яны абуджаюць, калі яны ствараюць супольнасць. Тую напэўна будзе можна адчуць у час калядна й Усяночнай са спевам хору, які аб'ядноўвае людзей падобных Зоі Беламызы.

З Калядамі і Новым годам!!!

Тэкст і фота **Улі ШУБЗДЫ**





# Надзеі і падзеі

Новы год — новыя надзеі і прагнозы. Новы год — новыя падзеі і слёзы. Слёзы ад таго, што тыя надзеі і чаканні не збудуцца. Часам, аднак, здараюцца і слёзы радасці. Калі, прыкладам, нешта прыемнае адбудзецца ў вашай сям'і, ці пераможа ваша любімая каманда, ці ваша краіна вызначыцца нечым пазітыўным на міжнароднай арэне. Урэшце, тады, калі ўдасца выбрацца ў цікавую вандроўку, пабываць на прыродзе, сустрэцца са старымі сябрамі і выпіць разам пляшку добрага віскі з добрай закускай і настальгічнымі ўспамінамі. З гадамі гэтых сяброў становіцца ўсё менш — адны адыходзяць у іншы, будзем спадзявацца, лепшы свет, іншыя расцярушваюцца і губляюцца праз час і аддаленасць у прасторы, трэція з розных прычын проста перастаюць быць сябрамі. З гадамі становіцца і менш наіўнасці і веры ў чалавецтва. А страта веры ў чалавецтва — гэта, канешне, моцны ўдар па псіхіцы чалавека. З гадамі, аднак, належыць пасталець і зразумець, што чалавецтва з ростам тэхнічнага прагрэсу лепшым не становіцца. Што міру на планеце, татальнага дабрабыту і глабальнага шчасця ніколі не дасягнуць. Што ніхто не дапаможа нам, акрамя нас саміх. А звычайнае чалавечае шчасце складаецца з маленькіх радасцей, праяў дабрыні, салідарнасці, падтрымкі.

Адышоўшы 2017 год не быў катастрафічным у палітычным плане. Гарачая трэцяя сусветная вайна, дзякуй Богу, не пачалася. Хоць яе пагроза рэальна вісела, ды і вісіць у паветры. Адзін пачварны паўночнакарэйскі рэжым чаго варты! Амерыка сур'ёзна ўзялася за расейскую палітычную мафію, працэс гэты працягнецца ў новым годзе і прывядзе да супярэчлівых наступстваў. З аднаго боку Масква павінна будзе абмежаваць і зменшыць адкрытую знешнюю агрэсію, з іншага — расейскае грамадства будзе адчуваць сябе ўсё больш пакрыўджаным, не разумеючы сапраўднай прыроды рэчаў і фашызавацца далей пад кіраўніцтвам старога-новага правадыра, які аформіць пажыццёвае кіраванне. На нашай краіне расейскія падзеі, канешне, таксама будуць адбівацца выразна.

У Беларусі быў гарачым канец зімы — пачатак вясны адышоўшага года. Акцыі „недармаедаў" па-сапраўднаму ўзрушылі грамадства. Рэакцыя ўлад была прадказальнай — здушальна сілавой і рэпрэсіўнай. Аднак размах грамадскага абурэння быў досыць моцным, таму ўлада ўрэшце пайшла на прыпыненне дзікунскага дэкрэту. У эканамічным плане насельнікі Беларусі працягвалі беднасць, пакупная здольнасць насельніцтва няўхільна падала, людзі па сутнасці праядалі старыя валютныя запасы. Адпаведна год быў надзвычай цяжкім для беларускіх прадпрымальнікаў, многія з іх увогуле спынілі сваю камерцыйную дзейнасць у такіх умовах. Дзяржава, якая папросту няздольная на нейкія структурныя рэформы, па-ранейшаму падмяняла іх пустымі міфалагемамі і старым бальшавіцкім лозунгам „Усё для чалавека!". І гэтага чалавека мы нават ведаем. У канцы 2017 года прыдумалі новую гульню — прывід крыптавалюты ўжо блукае па прасторах сінявокай рэспублікі. Неўзабаве будзе шмат ашуканых і расчараваных. Адзіны пазітыўны вынік года ў гаспадарчым сэнсе ў Беларусі — гэта ўводзіны ў Гарадзенскім рэгіёне бязвізавага рэжыму для замежнікаў на пэўную колькасць дзён. У новым годзе гэты тэрмін павялічыцца да 10 дзён і распаўсюдзіцца таксама на Берасцейшчыну.

2018 год — гэта год зімовай алімпіяды ў Карэі і футбольнага чэмпіянату свету ў Расеі. Задоўга да свайго пачатку яны абраслі такімі скандаламі, што гаварыць пра нейкія вышэйшыя спартовыя ідэалы нават смешна. І яшчэ пытанне, ці адбудуцца гэтыя форумы ўвогуле? У кожным разе тут дакладна можна прагназаваць далейшыя канфузы і недарэчнасці. Можна нават правесці паралелі з ваколімпартовымі падзеямі 1980-1984 гадоў, якія ўрэшце паспрыялі і палітычным пераменам на планеце Зямля.

Нашым чытачам у Новым годзе хочацца пажадаць здароўя, аптымізму, цёплых сямейных святаў, прыемных сустрэч з сябрамі, новых адкрыццяў, цікавых падарожжаў і тых маленькіх радасцей, якія і складаюць смак жыцця.

З Калядамі і Новым 2018 годам!!!

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Без кульмінацыі

У тыя дні, калі я працаваў у «Сучаснай газеце», азартна збіраў анекдоты пра людзей і іх выпадкі, іншы раз дзіўныя і часам абсурдныя, гратэскныя ды трагікамічныя. Іх залатой крыніцай былі паведамленні агенцтваў з Польшчы і свету. Яны з'яўляліся на «дэпешным» камп'ютары адна за адной, ад світання да заходу і ад заходу да світання. Проста бяры і выбірай! Да маіх улюбёнцаў — запэўніваю, што сапраўдных — да сёння належыць дырэктар заапарка ў Германіі, які таямнічым чынам знік з роднага горада са сваёй любімай сланіхай Альдонай. Нягледзячы на пошукі паліцы не знайшлі дзіўную парачку. Ці гэта было звычайнае выкраданне з мэтай выкупу, або... рамантычныя ўцёкі каханкаў — невядома. У рэшце рэшт, паведамленні агенцтваў не даўжэйшыя чым жыццё каляровага матылька. Затрапечуцца, як ён, і будуць радаваць або раздражняць, лятаць над інфармацыйным лужком, часам драматычна знерухомеюць, але заўсёды, як раптам знайшліся, раптам прападуць. Ужо на другі дзень ніхто іх не памятае. Я схацеў захаваць, па меншай меры, некаторыя з іх ад забыцця, запісваючы іх уручную ў тоўстым сшытку. Калі запоўніўся ён даверху, я занатоўваў гэтыя «матылькі» на асобных лістах паперы, якія ўпіхваў паміж старонкі тоўстага сшытка. Гэты летапісны запал не пакідаў мяне да апошняга дня працы ў рэдакцыі. Я з'ехаў з Беластока ў іншы горад. Затым у іншую краіну. Сшытак дзесьці прапаў і без следу зніклі весткі пра дырэктара заапарка і сланіху Альдону. Я пытаўся пра сшытак у сваіх сваякоў і сяброў. Сшытак быў фактычна Сезамам анекдотаў, скарбонкай літаратурных тэм, закваскай незлічоных гісторый, якія шукаюць свайго апавядальніка. Неацэнная страта! Беззваротна страціў я літаратурную прэмію імя В. Казанэцкага, у тым ліку і лаўр «Nike» і Нобелеўскай літаратурнай прэміі... На жаль. Але, як казаў Міхаіл Булгакаў, «рукапісы не гараць». З верай і надзеяй я трымаўся гэтай думкі. Не беспадстаўна, як высветлілася ў апошні час. Вось, калі я перачытваў апошнія некалькі дзён мой любімы раман «Майстар і Маргарыта" таго ж вешчуна надзеі — Булгакава, спаміж старонак яго несмяротнага рамана выпаў складзены папалам лісток, шчыльна запісаны. Кранутыя добрай здагадкай я распрастаў яго і прачытаў з вялікім хваляваннем. Гэта быў «матылёк», Бог ведае чаму зацісануты паміж лістамі геніяльнага рамана. Я прывяду яго змест, не ўпускаючы ані слова, ані коскі з таго, што напісаў на аснове аўтэнтычнай інфармацыі агенцтва. Ідуць Каляды, так хай страшныя факты аб нядаўнім мінулым стымулююць чытачоў да глыбокай рэфлексіі.

І гэта здарылася ў 2004 годзе на Куццю пад Беластокам. Справа журналісцка праверана і пацверджана ў паліцыйных актах. Мой запіс выглядае наступным чынам: «Двое паліцэйскіх патрулюючых падбеластоцкія дарогі, вярнуліся на базу раней часу і аддаліся ў рукі паліцэйскага псіхіятра... Вось спынілі яны трох чалавек, якія ішлі зігзагам абочынай шашы. Спачатку абураныя іх безадказнымі паводзінамі, яны пацярпелі нечаканае і глыбокае расчараванне, калі ўбачылі блізка тое, што ўбачылі. Але гэтую гісторыю трэба пачаць з самага пачатку. Затрыманыя мужчыны, а дакладней, толькі двух з іх, не пашкадавалі сабе моцных алкагольных напояў, якія спажывалі на працягу некалькіх гадзін у прыдарожнай піўнушцы на аўтазаправачнай станцыі. Дахаты, у вёску, што ляжыць побач з шашой, напрасткі мелі толькі адзін кіламетр. Ідучы па абочыне шашы трэба было адолець яшчэ два. А час падціскаў — бо ж была Куцця — дык выбралі больш кароткі шлях. Жонкі і дзеці чакалі са святочнай вячэрай, выглядаючы блудных мужоў і бацькоў праз вокны. Джэнтльмены сышлі з дарогі, пераселі лясок і пакаліваліся праз палеткі і аблагі да бязмесячнай цёмнай ночы. У іх галовах закіпелі гарачыя напоі, і заблукалі. Пайшлі так — кепска. У другі бок — дрэнна. І так, шукаючы выхаду з лабірынта ночы, звaліліся ў глыбокую яму. Мац-мац — намацалі адзін аднаго. Добра. Падсмейваюцца з прыгоды. Але намацалі яшчэ кагосьці. Ляжыць нерухома, значыць, п'яны ў труба. Верагодна, так, як і яны паляцеў у яму і заснуў каменным сном. А можа гэта сусед? У цэмры не дагледзіш! Рашылі забраць земляка з сабой. Выкапаліся з ямы, ухапілі бедалагу і павалаклі. Смярдзеў крышку, пэўна папусціў. Або рыгнуў... А тут і паліцыя. Убачыла трох нецвярозых дзядзькоў з нябожчыкам невядомага полу, без нагі і надарванай сківіцай!.. Паліцыянты патрабуюць пастаяннай псіхалагічнай дапамогі. З дзядзькамі ў парадку, кінулі піць.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Надзея на Каляды!

Каталіцкія каляды ўжо за намі. Запаміталіся цеплынёю і праліўнымі, снежаньскімі дажджамі. Наглядаючы за гарадскімі газонамі ў час шпацыру спахапіўся я на думцы, што менавіта ўжо зранку ізноў станучь гуркатаць газонакасілкі, каб падстрыгчы траву да патрабавальных памераў і такім чынам адазвецца чарговы будзільнік, ад якога толькі трэпліюцца нервы і псуецца ранішні настрой. Цёплы водар паветра, які казытаў сваім пахам мой нос, прыносіў адчуванне, што вось, вось мы ў чаканні прадвесця, а не Каляд. «Ну, што ж — гэта горад, у пушчы пэўна другі парадак», — падумалася мне. Як падумаў, так і зрабіў — паехаў у родную вёску наведаць бацькоў і паназіраць за прыродай. Ужо за межамі Беластока стала зразумелым, што восеньскія дажджы перайшлі плаўна ў зімовыя разлівы. Раскіслыя палі, лугі ў вадзе і навіслая ў паветры туманная вільготнасць хутчэй нагадвалі класічныя англійскія краявіды, чымсьці зімовыя вобразы з Белавежскай пушчы. Мне, як пушчанскаму дзіку, ад пабачанага і пачутых бацькавых слоў не стала лягчэй на душы. На маё пытанне пра цяперашнія, прыродныя знакі надвор'я і святочныя павер'і мой бацька ўсхвалявана адказа: «Няма ўжо нідзе ні праўды, ні парадку, сынок, нічога не спраўджваецца». Яму, чалавеку лясной душы па натуры і пражытым жыцці, не ўкладваецца ў разуменне свету разбурэнне ўжо нават правілаў акружаючай духоўна-прыроднай прасторы. У сваёй стомленасці не даўся ўгаварыцца на даўжэйшую прагулку ў лес. Яшчэ толькі прызнаецца ў канцы, што ад усяго гэтага вельмі моцна баліць яму галава і бяссонніца стала яму спадарожніцай ночы. І толькі размова пра чаканыя Каляды вяртае яму ўсмешку і надзею на лепшыя дні ў нашым жыцці. Мая ўсхваляванасць у такой сітуацыі набрала яшчэ вельмі моцнага асабістага характару.

Крыху паспакайнеўшы, праз некалькі гадзін пачаў я вяртацца думкамі да гэтага парадоксу прыроды і мовы. Бо ж яшчэ за маёй памяці снежаньскія маразы, завірухі, снегапады не былі метэаралагічнай анамаліяй, але звычайным зімовым кругазваротам у гэтым куточку свету. Дарэчы, і прыгажосць назову гэтага месяца ў нашай беларускай мове вылучае яго сваёй зімовай мяккасцю сярод назваў у другіх мовах свету. А тут з неба не сыплюцца белыя, белыя сняжынкі, а ўзамен гудзе вятруга з барабаністым даждждом. У такое, яшчэ зацягнутае, бяссоннечнае надвор'е колькасць неўрозаў і дрэнных эмоцый небяспечна ўзрастае ў міжчалавечых эмоцыях. Многія людзі з павышаным адчуваннем дэпрэсіўнасці ў такіх абставінах проста абяссільваюцца і не ў змозе супрацьстаяць нават простым выклікам жыццёвай штодзённасці. А дзе тут гаварыць яшчэ пра прафесійныя ці святочныя арганізацыйныя абавязкі. І каб падняцца з ложка трэба на сябе здорава накрычаць. Некаторыя мае знаёмыя ў такой сітуацыі не гавораць пра нішто іншае, як толькі знікнуць раптам на некалькі дзён у тыя краіны, дзе з сонцам змогуць сустракаць ранкі і прыход ночы. Толькі хіба цеплыня сэрцаў і душ, якая стагоддзямі ідзе ад таямніцы радасці з Нараджэння Хрыстовага дазваляе нам пераадолець у духоўным плане такія змрочныя прыродна-біялагічныя перыяды, паколькі чартоўская цялесна-фізічная спакуса прапаноўваецца нам у любым куточку, у любую пару, за любую цану даступнасці. Таму так адчувальна і відавочна святочнае зліваецца з буднямі, а сакральнае з прафанацыяй. Вось той міш-маш «сучаснага чалавецтва». Чарговы крок, які марыцца многім на гэтай дарозе, то як найбольшая дэхрысціянізацыя і лаіцызацыя нашага грамадства і наступных пакаленняў. Адным словам шлях да засухі сваіх каранёў, на якіх хочацца стварыць нейкае ідэалагічнае новае жыццё, без апірышча ў дзвюхтысячнай хрысціянскай культуры і таямніцы яе веры. А засушаныя карані і дрэвы прыатакуюць напэўна духоўныя караеды, спляжыўшы ўсё з ненасытнай заядласцю. Пушчанскаму дзіку такое параўнанне найбольш зразумелае і ўяўляльнае. Але досыць змрочнасці. Маем жа калядны цуд, Нараджэнне Хрыстова і наш сямейна-родны кут. З Раждаством, дарагія чытачы «Нівы».

**Яўген ВАПА**

**Беларускае грамадска-культурнае таварыства з'яўляецца найстарэйшай беларускай арганізацыяй у пасляваеннай Польшчы. Дзейнічае яно з 1956 года. Гуртавала яно ад самога пачатку чальцоў з Беласточчыны, Гайнаўшчыны, Бельшчыны, Сямятыччыны, Сакольшчыны і ўсяе Польшчы, мела аддзелы таксама ў Варшаве, Гданьску. Шматлюдныя беларускія гурткі па меншых і большых мясцовасцях займаліся, між іншым, тэатральнай самадзейнасцю. Таварыства мела таксама свой эстрадны калектыў «Лявоніха», а быў час, калі магло весці сваю гаспадарчую дзейнасць, як і іншыя меншасныя арганізацыі ў Польшчы. Займалася выдавецкай, навуковай, мастацкай творчасцю. Цяпер у асноўным штандарным яго мерапрыемствам з'яўляецца агульнапольскі фестываль беларускай песні. Таварыства ладзіць таксама народныя фэсты, агляды беларускай народнай творчасці і традыцыйных абрадаў і святаў, культурныя, перш за ўсё песенныя сустрэчы ды навуковыя канферэнцыі.**




# Беларускае таварыства — працяг

Янка Сычэўскі, па прафесіі навуковец (прыйшоў у БГКТ з Беластоцкай палітэхнікі) кіруе арганізацыяй з 1992 года. На XVIII Краёвым з'ездзе дэлегатаў БГКТ, які 23 снежня 2017 г. быў праведзены ў сядзібе ГП БГКТ у Беластоку па вуліцы Варшаўскай, 11, быў ён пераабраны старшынёй Галоўнага праўлення БГКТ. Паводле яго, дзейнасць арганізацыі ў бліжэйшыя чатыры гады найбольш залежыць ад фінансавання з боку Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі Польшчы:

— Мы настолькі можам развіваць сваю дзейнасць, наколькі МУСіА дазволіць, у сэнсе дафінансавання. Таму што зусім без дафінансавання мы не ў сілах арганізоўваць вялікія мерапрыемствы. Тым больш, што на тэрыторыі нашага ваяводства зашмат багатых спонсараў няма.

Намеснікамі старшыні ў Галоўным праўленні БГКТ будуць Васіль Сегень і Данута Тымашэвіч. На пасаду сакратара Валянціна Ласкевіч. Членамі ГП абраны яшчэ Віталь Бонда, Іаланта Гэцьман (з Сакольшчыны), Гражына Валкавыцкая-Тамашук, Лідзія Мартынюк, Тамара Русачык, Ніна Бялецкая, Яўген Валкавыцкі, Ніна Абрамюк, Антон Семянковіч.

Камісія прапаноў вызначыла наступныя напрамкі дзейнасці БГКТ на 2018-2021 гады:

— Рэалізаваць і ўдасканальваць праверaныя формы культурнай і асветнай дзейнасці, выпрацаваныя на працягу дзесяцігоддзяў БГКТ. Рабіць намаганні ў напрамку пабольшвання датацыі з боку Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі, Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны РП, а таксама ўзбагачаць супрацоўніцтва з органамі самакіравання на тэрыторыі Беласточчыны і Падляшша. Звяртаць далейшую ўвагу на развіццё культурнай дзейнасці ў напрамку міжкультурнага дыялогу, а таксама на падтрымку мерапрыемстваў, якія развіваюць дыялог культур на памежжы, у тым ліку міжнародная навуковая канферэнцыя «Шлях да ўзаемнасці», Міжнародны фестываль польскай і беларускай песні Беласток — Гродна, Міжнародны фестываль нацыянальных культур «Культура без межаў». Развіваць супрацоўніцтва з праваслаўнымі прыходамі Беластоцка-Гданьскай і Варшаўска-Бельскай епархій і мітраполіяй у Варшаве. Працягваць супрацоўніцтва з падляшскім аддзелам і цэнтральнай управай Таварыства Польшча-Усход. Працягваць і ўзбагачаць супрацоўніцтва з Міністэрствам культуры, Міністэрствам замежных спраў, Міністэрствам адукацыі, упаўнаважаным па справах рэлігіі і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь, для развіцця беларускай асветы і культуры. Развіваць і ўзбагачаць супрацоўніцтва з пасольствам Рэспублікі Беларусь,





Генеральным консульствам РБ у Беластоку і Культурным цэнтрам Беларусі ў Польшчы, з мэтай узбагачэння культурнай дзейнасці. Планаваць супольна мерапрыемствы з Культурным цэнтрам Рэспублікі Беларусь у галіне беларускай асветы і культуры, з мэтай узбагачэння далейшай дзейнасці. Узбагачаць формы супрацоўніцтва з усімі звеннямі БГКТ, асабліва з аддзеламі БГКТ і самадзейнымі калектывамі беларускай культуры, якія ў гэтай сітуацыі трактуюцца як гурткі Беларускага таварыства. Удасканальваць супрацоўніцтва з Таварыствам беларускай культуры ў Польшчы. Чыніць далейшыя спробы нармалізацыі адносін паміж рознымі беларускімі арганізацыямі ў Польшчы і са сродкамі масавай інфармацыі, — інфармавала Валянціна Ласкевіч, старшыня камісіі прапаноў на з'ездзе.

— Дзякуем усім беларусам, якія носяць у сэрцы адданасць малой айчыне, сваёй роднай беларускай культуры, — падвёў з'езд Васіль Сегень. — Гэта вялікая адказнасць перад тымі, якія былі перад намі, нашымі продкамі, якія нас выхавалі ў пашане і любові да нашай роднай культуры. Але гэта і вялікі абавязак перад нашымі наследнікамі. Дзецьмі, унукамі, тымі маладымі пакаленнямі, якія прыйдуць пасля нас. І вось гэты абавязак выконваем як мага найлепш. Каб перадаць маладым усё тое, што нам дарагое, адкуль мы, каб гэтыя карані ўзмацняліся. Калі яны абрэжуцца, нас, як нацыі, проста не стане! На нашай роднай зямлі, дзе жывем спакон вякоў. Ніхто нас сюды не перасяліў, нашы продкі жылі на нашай роднай зямлі.

А новы старшыня Янка Сычэўскі:

— Вельмі дзякую, што аказалі вы давер гэтаму чалавеку, які доўгія гады быў на гэтай пасадзе, думаю, што не заўсёды заслугоўваючы на гэта, каб яго пазітыўна ацэньваць. Усе разам з вамі будзем выконваць ганаровыя і звычайныя абавязкі, якія належаць, дзеля развіцця нашай беларускай культуры, паглыблення нашай беларускай тоеснасці і, канешне, годнага захавання ў адносінах таксама да тых, якім не падабаецца ў нашай краіне беларускасць, у якіх няма талерантнасці, і якія не раз і не два арганізуюць мерапрыемствы правакацыйнага характару. Гэта патрабуе ад нас сапраўды і талерантнасці, і разумення, і звычайнага розуму ў адносінах да такіх людзей і такіх асяроддзяў. Я перакананы, на аснове свайго досведу да гэтай пары, бо нямала гадоў мне прыйшлося старшынстваваць у Галоўным праўленні, што мы надалей будзем умець паводзіць сябе годна і развіваць сваю культуру без увагі на тое, ці гэта каму падабаецца, ці не падабаецца.

— Калі мы тут паявіліся з вёскі, — успамінае Люба Гаўрылюк з Козлікаў, якая разам з Беларускім таварыствам з 1961 года, — Таварыства нас яднала. Мы прыйшлі сюды, каб паслухаць, як па-свойму гавораць. А нашы ўчыцялі, якія пры ўладах, — яны добра ўсё арганізуюць. Для гэтага трэба ўмеласцей, і грошы здабыць немалыя. А на нашых выступленнях — маса народу. Гэта людзям патрэбнае. Калісь, дзесяцігоддзі таму, мелі мы па тры канцэрты ў дзень, напрыклад на Сакольшчыне. За адной канапкай. Гэта не залежыць ад таго, хто сакратар ці шэф арганізацыі. Найбольш нас цешыць, што радасць прыносім, некаторыя слухачы аж плачуць. Нішто так не ўсхвалюе чалавека, як родная песня. І нішто не паставіць на ногі, нават па такой цяжкай хваробе, якую я перайшла, як роднае слова ў блізкай кампаніі, якая аддае душу для роднай справы.

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

# Ландшафт



Злажу ў Бандарах з невялікага аўтобуса публічнай камунікацыі і падаюся ў бок дамбы, у бок колішніх вёсак, што на літару „Б", быццам сімвалаў „Польшчы Б": Буд, Боўтрык, Бахуроў... Колішняя геэсаўская крама ў Бандарах, якая да ўзвядзення дамбы славілася ў шырокім наваколлі шырокай таварнай прапановай у дзяржуны час, зараз канула ў тое ж цячэнне, у тую Лету, што і навакольныя вёскі. Школьны будынак у Рыбаках, які з узгорка дастойна сачыў за сенажацямі ў даліне верхняй Нарвы, зараз закрыў свае вокны, быццам вочы пакойнік. Яго быў купіў нейкі мастак, размашыста плануючы наладзіць там выгаднае атэльє, але і чалавека таго, запар з ягонымі планамі, адолеў Час.

На парэнчах дамбы маюць свае градкі „семяноўскія" чайкі, якія праслаўляе ў нас песня на словы Мікалая Варанецкага. Час ад часу ўзмахнуць крыламі, каб пацешыцца даром лётання, а пасля зноў прысядуць палюбавацца даром прыродна-антрапагеннага краявіду. Ды і суб'екты пароды *anthropos* таксама там прысутныя. На далікатных ранішніх хвалях вадасховішча калышацца некалькі лодак з вудзільнікамі.

Аформіў я свае справы і перада мною ўзвысілася града з некалькіх гадзін часу; аўтобус з Ялоўкі ў Беласток мае быць каля чацвёртай пасля поўдня. Калі б гэта было цёплае лета, дык можна было б адносна бестурботна скарыстаць той час. Але навокал холад, таму рашаю дабірацца ў бок Нарвы, дзе аўтобусы ў Беласток часцей задавальняюць шырэйшы пасажырскі паток. Цікава было б заглянуць у Мацейкаву Гару, але туды трэба было б дабірацца кругалём мінаючы забалочаную цяпер пойму рачулкі Руднік...

У Міхнаўцы наводзіць перад хатай парадкі знаёмая, якая шматлікія гады „стаяла" ў ляшуцкай краме. Абменьваемся невясёлымі навінамі, бо гэтакія астаюцца на найсталейшы перыяд жыцця. Даведваюся, што крама ў Лешуках працуе надалей, да другой гадзіны пасля поўдня.

У краме дзве асобы, якіх не назаву пакупнікамі, бо яны там у чыста кампанейскіх мэтах — каб не сядзець самотна ў хаце. І перад крамай тры асобы, дзве з іх, жанчына і мужчына, падаюцца мядзведжай паходкай на вёску, крыху перада мною. Мужчына адыходзіць пад плот, жанчына асцерагае яго:

— Глядзі, бо Маруня забачыць!

Але калі ў нашага чалавека з'явілася патрэба, асабліва калі яна „меншая", дык чаго ж яе, тую патрэбу, нявыгадна адтэрміноўваць — дзе стаў, туды і насцаў. А чалавек жа, гэта ж такая жывая істота, як карова ці сабака...

Далейшы шлях — цераз пушчу, Лядскую. Прагулка па ёй — быццам сімфонія. Спярша настрой пастаральны, супакойваючы. Але пасля мелодыя краявіду паступова набірае рэзкасці, жорсткасці, узводзіць ціск крыві да вышэйшых паметак...

Караед накінуўся на Пушчу быццам саранча, бязлітасна яе калечачы. Памерлыя елкі скінулі свае, вясёлыя калісь, іголкі, пакідаючы на сабе пачарнелыя, жалобныя месцы па іх. Шмат мёртвых дрэў ужо ссечана і пасечана, і складзена ў шматлікія тэрыконы. Гэта тады, калі ствалы не надта тоўстыя. Але чым далей у лес, тым больш жудасны краявід. З'яўляюцца цэлыя пост'елачныя паляны. І штораз таўсцейшыя ляжаць ствалы, якіх нават не пасеклі на двухметровыя калоды, толькі пакояцца даўжэзныя бярвенні. Быццам тут дзейнічала славутая Цэнтура. Мала таго — некаторыя свежыя палянкі выглядаюць так, быццам па іх прайшла нейкая драўнінная сячкарня — і пянькі там, і непрыбранае голле, і калодкі; такі лясны апакаліпсіс...

Не ўсе елкі з'едзены караедамі; сямтам стаяць цудам уцалелыя сіроткі, а ў некаторых месцах можна нават пабачыць і зялёныя шавялюры невялічкіх елачных ансамбляў.

Калі б такі лесапавал здарыўся сто гадоў таму, то той неспадзяваны высып тоўстага бярвення быў бы дастаўлены на недалёкую вузкакалейку і па ёй у гайнаўскія тартакі, або нават паехаў бы далей — у Сілезію, Памеранію ці Брандэнбургію. Калі б гэта здарылася пяцьдзясят гадоў таму, то таксама запрацавала б вузкакалейка, але і скарыстала б навакольнае насельніцтва, здабываючы паліва для абагравання печаў. Аднак цяпер дэмаграфічны ландшафт тут такі, быццам на тое насельніцтва наваліўся не караед, толькі сацыяльны феномен накшталт нейкага антрапафага — народу тут асталося столькі, што кот наплакаў, пераважна састарэлыя сіроткі. А напорысты народ недзе ў Сілезіі, Памераніі ці Мазовіі, маючы шмат вольнага часу для роздумаў над сваёй непахіснай беспамылковасцю, дамагаецца, каб той драўнінны матэрыял астаўся стаяць някранутым, бо тады там узбуяніць новы біятоп. Як па гагаворцы: „І сам не гам, і другому не дам". Магчыма, што таму напорыстаму народу здаецца, што калі справы пойдуць у іншым напрамку чым яму надумалася, то ніякі біятоп на пушчанскую тэрыторыю ўжо не завітае, а заміж яго паявяцца там бетон, асфальт, цэзій, стронцый і смог...



Магчыма, што я памылюся, калі з'явіцца ў мяне падазрэнне, што не чалавек, паводле модных зараз меркаванняў, але жучок караед мае загадваць пушчанскімі прыроднымі працэсамі, што караед мае быць такім быццам генеральным дырэктарам Пушчы. Гэта думка не новая. Ужо старажытныя егіпцяне ўзводзілі ў сакральны ранг жучка скарабея. Ксёндз Станіслаў Кабелюс: „Skarabeusz — scarabeus sacer — był żukiem, który w kulturze religijnej starożytnego Egiptu stanowił święte zwierzę. Znane są pochodzące z antyku liczne jego wyobrażenia. Klemens Aleksandryjski w Kobiercach podał, prawdopodobnie za Plutarchem, że Egipcjanie przedstawiali słońce pod postacią znaku skarabeusza, ponieważ owad ten lepi z wolego gnoju kulkę i toczy ją przed sobą. Powiadają także, że przebywa on sześć miesięcy pod ziemią, a drugą połowę roku na ziemi. To wychodzenie skarabeusza z wnętrza ziemi uznawano we wczesnym chrześcijaństwie za symbol zmartwychwstania i życia wiecznego. W oparciu o teksty biblijne powstał wśród Ojcow Kościoła metaforyczny obraz skarabeusza odnoszony do Chrystusa...". Хто ведае, ці наша азаранае караедапаклоннае апалчэнне не мае рацыі...

На прыпынку ў Храбустоўцы ў мяне паўгадзіны вольнага часу для чакання аўтобуса ў напрамку Беластока. З храбустоўскай вуліцы паказваецца каля шашы кволенька апранутая пажылая жанчына. Убачыўшы мяне стомленым крокам прыходзіць на прыпынак. Крышку расказвае пра сябе, пра сваё складанае жыццё. Рана асірацела. А калі выйшла замуж, то толькі раз была пасля на вяселлі — бо не было грошай на падарак, не было грошай, каб у што прыстойнае апрануцца. І ўсё жыццё няспынная земляробчая праца. А цяпер заглянула на прыпынак, бо ў вёсцы няма з кім перакінуцца хаця словам...



Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Плакаты завуць і клічуць




Мінскі Палац мастацтваў. Будзённы восеньскі паказ.

Смех і грэх, горш высмеяць сябе аднапартыйная сістэма не магла, чым наладзіўшы ў Маскве, Навасібірску, Ленінградзе цудоўную выстаўку выдатных савецкіх плакатаў. Нарэшце пакацілася выстаўка па правінцыйных адсталых гарадочках — Кіеве, Ташкенце, Рызе, Тбілісі, Кішынёве, Душанбе, Мінску.

Ідэя выстаўкі актуальная ў дзейны перабудоўны час. Паказаць нясціхную прагрэсіўную хаду савецкай улады праз элементарна простае, нам гадамі паказванае, нагляднае, усім даступнае — плакаты, лозунгі

Аднавяскоўцы Ігар Badановіч і Аляксей Бялько за гэта лета трэці раз былі ў Мінскім палацы мастацтваў. На гэты раз спяшаліся запісваць, фатаграфаваць. Пэўніліся, мясцовыя беларускія цэнзары не пракапляюшаць усесаюзную і маскоўскую крамолу, прыхлопнуць вераснёўскую выстаўку. На трэцім годзе перабудовы такія плакаты рана паказваць, асабліва ў правінцыях гмахкай краіны. Мінскія цэнзары свяцейшыя за папу рымскага.

Не памыліліся два сябры.

Хаця, на цвярозы розум, выстаўкам не было што хаваць, чаго таіцца. Кожны з вывешаных плакатаў і лозунгаў месяцамі, дзе там, гадамі высвечваўся ў газетах, кнігах, на стэндах, сценах. Зазыўныя поклічы чыталі мільёны, школьнікі і студэнты цытавалі ў кантрольных, на экзаменах, заліках.

**ПЕРАБУДОВЕ ШЫРОКУЮ ДАРОГУ**
**Таварышы! Будзем верныя ідэалам Кастрычніка, адстаім імя і справу Леніна!**
**Народныя дэпутаты — камуністы! Памятайце аб высокім даверы выбаршчыкаў, умацоўвайце Савецкую ўладу! Сваю ініцыятыву, канструктыўную і эфектыўную працу ў Саветах накіроўвайце на карысць народа.**
**Грамадзяне нашай шматнацыянальнай Айчыны! Будучыня СССР — у адзінстве суверэнных рэспублік! Так — новаму Саюзнаму дагавору!**
**Братэрскае прывітанне камуністам, прыхільнікам сацыялістычнай ідэі, усім прагрэсіўным сілам планеты!**
**Гарбачоў: нашым дзецям трэба малако.**

**БУДЗЕМ ЖЫЦЬ ПРЫ КАМУНІЗМЕ**
**Рыначная адносіны працоўным калектывам.**
**У палітыцы навіны не асноўнае.**
**Павернем паўночныя рэкі.**
**Болей тавараў палепшанай якасці.**
**Эканоміка павінна быць эканомнай.**
**Пяцігодку не сарваць.**
**Нечарназем'ю — клопат партыі і народа.**
**БАМ нарэшце завершым.**
**Далоў бесперспектыўныя вёскі.**
**Дарогу кукурузе — каралеве палеткаў.**
**Ліквідуем рэшткі рэлігійнага дурману.**
**Дагонім і перагонім Амерыку.**
**Цяперашняе пакаленне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізме.**
**Прыродныя выкапні нашай Радзімы бясконцыя.**
**Дадзім тры планы па мясе і два па малаку.**
**Перавысім звышпланавыя сацыялістычныя абавязацельствы на 50%.**
**Цалінным землям глыбокае ворыва.**

**РАДЗІМА-МАЦІ ЗАВЕ**
**Будзем біць ворага на яго тэрыторыі.**
**Выявім ізвергаў і патайных ворагаў народа.**
**Скінем лапці, пераабуемся ў гумавікі і боты.**
**З няшчасных хутароў у шчаслівыя калгасы.**
**Знішчым хутарскую сістэму.**
**Жанчыну з кухні на п'едэстал.**
**Газету ў кожную хату-чытальню.**
**Гарэлку піць толькі патрошку.**
**Лішэнцаў у халады Сібіру.**
**Развернем барацьбу з класава чужым элементам.**
**Рэлігія — опіум народа.**
**Камсамолкі разумейце несямейных камсамолак.**
**Жаночы дзень — у сем'і перадавых работніц і сялянак.**
**Далоў рэлігію.**
**Папоў да сценкі.**
**Няграматнасць вон з хат і дамоў.**
**Інтэлігентаў, афіцэраў і паноў — да сценкі.**
**Ты запісаўся ў Чырвоную Армію?**
**Рэвалюцыя — лакаматыў гісторыі.**

**НАШ ЛОЗУНГ — ТВАРАМ ДА ВЁСКІ**
**Абламаем лапы шкоднікам і інтэрвентам.**
**Заменім уладу рэўкомаў уладай Саветаў.**
**Узмоцнім адпор кулаку.**
**Пытанне ўсіх пытанняў — адносіны паміж горадам і вёскай.**
**Далейшы націск на кулака — працяг нашай палітычнай лініі.**
**Ударым па спекулянце, парушальніку савецкіх законаў.**
**Стойка праводзіць класавую лінію — значыць асаджваць кулака.**
**Лозунг ліквідацыі кулацтва стаў у нас галоўным.**
**Забяспечым згуртаванасць батрацка-бядняцкага ядра.**
**Шырэй выкарыстоўваць кулацкую арганізаванасць у сацыялістычным будаўніцтве.**
**Выраўняць фронт сацыялістычнага будаўніцтва.**
**Вярнуць маёмасць няправільна раскулачаным.**
**Не дапусціць кулакоў і лішэнцаў у кааперацыю.**
**Выберам бясконных і вызваленых ад сельгаспадатку.**
**У райвыканкамы — пралетарскія пласты.**
**«Не» лозунгу вызваліць Саветы ад камуністаў.**
**«Не» утрыманскім і ўраўняльным тэндэнцыям беднякоў.**
**«Не» страціць кантроль над мясцовымі Саветамі.**
**Калектыўнай апрацоўцы зямлі — інтэнсіфікацыю і машынізацыю.**
**Самаабкладанне ў вёсцы пашыраць.**
**Выйграць бітву з контррэвалюцыйнымі элементамі ў вёсцы.**
**Адваяваць серадняка ў кулака.**
**Хлебанарыхтоўкі выканаць!**
**Нават канфіскацыяй збожжа ў серадняка.**
**Не баяцца абвастрэння класавай барацьбы ў вёсцы.**
**Не дапусціць развалу блока беднаты і серадняка.**
**Арганізаванасці заможнікаў паставіць арганізаванасць бедняка і пралетара.**
**Дапаможам пралетару вёскі ўзмацніць кіроўную ролю беднякоў у сельсаветах.**
**Расшырыць абкладанне другарадных прыбыткаў.**
**Расшырым савецкую дэмакратыю.**
**Пазбаўленым выбарчых правоў няма добрай працы.**
**Не адновім НЭПаўшчыну.**
**Усе за калектывізацыю сельскай гаспадаркі.**
**Выявім кулацкія схроны і запасы.**
**Кулацтву — бой!**
**Смерць буржуазіі і яе прыхвасням.**
**Свята жаночага дня толькі для перадавых работніц і сялянак.**
**Заставіць рабочага адмовіцца ад папоў.**
**Створым антыцарккву і антысаборы.**
**Хрыстос не заклікаў дараваць.**

Смех і грэх, нават ім, доктару сельскагаспадарчых навук Ігару Бадановічу і слуцкаму лекару Аляксею Бялько, нямала асветным у палітычнай праўдзе/няпраўдзе роднай краіны, сабраныя купна, убачаныя ў далі часу лозунгі і плакаты заяснелі выродствы, свядома твораныя нядаўнімі начальнікамі дабрачных, працавітых і тупых продкаў.

Сябрукі абзванілі знаёмцаў, пераказалі суседзям сходу паглядзець цемру шматгадовых выдатных савецкіх выгаласкаў. Назаўтра планавалі прыйсці на выстаўку. Не ў адзіночку.

Прыйшлі. Не ў адзіночку. Пацалавалі замок. Па тэхнічных прычынах і з-за адсутнасці наведнікаў выстаўка тэрмінова зачынілася: старыя плакаты нікога не зацікавілі. Карысці нікому не прынасілі, мусілі выстаўку ў Мінску закрыць раней часу.

Ладна, знялі плакаты. Дык дазвольце прачытаць дадатковыя допісы на класна выкананых размалёўках і дадатках мінскіх мастакоў да прывезеных маскоўскіх плакатаў і лозунгаў.

— Пра якія дадаткі і размалёўкі вы гаворыце, ніхто іх не бачыў. Гэта студэнты накрэмзалі нешта на шпаргалках, наляпалі ўзбоч.

Кнігу прапаноў і скаргаў патрабавала сімпатычная таўсмаценькая чарняўка.

— Кніга водгукаў была тут ці не, не памятаю, я радавая супрацоўніца.

Ёй і яшчэ некалькім чалавекам другі шарагова супрацоўнік Палаца мастацтваў сітуацыю граматна растлумачыў. Выстаўка ўчора закрылася, за тыдзень наведаць яе мог кожны мінчук і госць сталіцы, кнігу прапаноў забралі арганізатары.

— У абласных цэнтрах выстаўку пакажуць?

— Жэншчына, не смяшыце народ.

На адыходзе асветны стары пасівелы супрацоўнік разумна буркоча:

— Гадамі анекдоціліся, цяпер трошкі агаліліся, а ўжо беларускія ўладнікі саромеюцца ўласнай шматгадовай тупасці. Нічога пяцігодкамі не бачылі, а тут за дзень пасвятлелі, плакатная хмурынка заўважылася...

Валер САНЬКО, Ліда

## Ці совы дрэнна бачаць удзень?

Шырока распаўсюджанае меркаванне аб тым, што совы дрэнна бачаць удзень. Быццам яркае святло асляпляе іх і робіць зусім бездапаможнымі. У доказ такой думкі сёй-той можа расказаць аб выпадках, калі днём совы падвяргаліся нападам маленькіх птушак самых розных відаў. Убачыўшы саву, якая вылецела паляваць днём, птушкі ўзнімаюць трывожны крык, носяцца вакол яе і, здаецца, вось-вось ударыць яе сваімі крыламі або дзюбамі.

Пачуўшы лясны скандал, сюды злятаюцца іншыя птушкі, і сава аказваецца акружанай натоўпам надакучлівых праследнікаў. Такое нярэдка здараецца ў нашых лясах.

Выходзіць, што совам — гэтым дужым і спрытным драпежнікам — здорава дастаецца ад усялякай драбязы? Выходзіць, што яны зусім бездапаможныя?

Гэта не зусім так.

Толькі больш дужыя драпежнікі адважваюцца распачаць з імі бойку. Гэтым самым птушкі проста робяць выгляд, што хочуць напасці, адцягваюць увагу драпежніка ад свайго гнязда з птушанятамі. У такіх выпадках рашаючае значэнне маюць не слабыя ўдары, да якіх справа так і не даходзіць, а моцны крык мноства птушак.

Совы добра бачаць у любы час сутак. Проста ў іх выпрацаваліся навыкі паляваць уначы, калі ім лягчэй здабыць корм. Совы кормяцца пераважна дробнымі грызунамі і землярыйкамі, якія ўначы выходзяць са сваіх нор. Значыць, у такі час іх найлепш лавіць, калі толькі дазваляе зрок. А ў соваў ён вельмі добры. Нездарма яны маюць такія вялікія вочы. Вастрыня зроку ў іх павялічваецца тым, што абодва вокі накіраваны наперад і сумуюць зроковыя адчуванні, а не ўспрымаюць іх паасобку.

Як гэта не дзіўна, але ў разгар лета совам даволі цяжка здабываць корм. Усе птушкі спяшаюцца чым раней адкласці яйкі, каб як найхутчэй вывесці патомства. А совы не спяшаюцца. Яны адкладваюць адно яйка, наседжваюць яго, затым — праз некалькі дзён — другое і наседжваюць ужо два яйкі. З інтэрвалам у некалькі дзён адкладаецца да васьмі яек. Таму ўсе птушаняты маюць розніцу ва ўзросце. Часам у адным гняздзе могуць знаходзіцца ўжо амаль дарослае савяня і зусім маленькае, якое толькі што з'явілася на свет.

Але часам паляванне ўначы совам не прыносіць удачы. Што тады рабіць? Пакінуць птушанят галоднымі на цэлыя суткі? Не. Лепш ужо паспрабаваць шчасця ўдзень. І тут узнікае знаёмая нам карціна — лясны скандал птушынай драбязы з савою. **(яц)**

## У Брэст з пропускам на дзесяць дзён

26 снежня 2017 года кіраўнік Беларусі падпісаў указ, па якім з 1 студзеня 2018 года турысты сямідзесяці сямі краін свету, у тым ліку Польшчы, змогуць прабываць на тэрыторыі Брэста і Брэсцкай вобласці на працягу дзесяці дзён без візы. Па асаблівым пропуску можна будзе перасякаць мяжу праз пагранічныя пераходы Брэст-Тарэспаль, Дамачэва-Славатычы, Пяшчатка-Полаўцы, на ровары або пехатою цераз пераход Перароў-Белавежа, таксама на цягніку Тарэспаль-Брэст. Пропуск дзейсны на тэрыторыі Брэста, Брэсцкага, Жабінкаўскага, Камянецкага, Пружанскага раёнаў, а таксама Свіслацкага раёна на Гродзеншчыне.

З 1 студзеня 2018 года можна будзе пакарыстацца чыгуначным транспартам без візы ў Гродна.

Указ быў прыняты з мэтай эфектыўнага выкарыстання турыстычнай і трансгранічнай інфраструктуры.

**(ус)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Год 2018 будзе цікавы і плённы!

На зломе старога і новага гадоў звычайна падводзім вынікі працы. Гаворым пра тое, што ўдалося, думаем пра наступныя крокі. Для нас заўсёды найважнейшай была актыўнасць дзяцей і маладых чытачоў, ваша ангажаванасць у беларускія справы і падзеі. Такой каларытнай падзеяй лічым спектаклі «Добры дзень Яраслаў Васільевіч». У ім выступаюць маладыя аматары тэатра з Бельска. Большасць іх — выпускнікі бельскай «тройкі». Спектакль апавядае пра легендарнага бяльшчаніна Яраслава Кастыцэвіча (ён у ніўскім календары на 2018 год) і патрона бельскай «тройкі». Пастаноўка ўзнікла на канве жывых успамінаў, а форму надала яму цудоўная акцёрка і рэжысёр Іаанна Стэльмашук.



Іншым, незабыўным спектаклем лічым «Народны альбом», які паставілі беластоцкія гімназісты пад кірункам Аліны Ваўранюк. У ім захапляюць вакальныя магчымасці моладзі, уражлівасць і сцэнічная прэзентацыя. Калі пра спевы — дык варта прыгадаць і навучэнцаў беларускай мовы з Белавежы. Тут подых не толькі старажытнай пушчы, але і свежасць.

Парадавалі нас поспехі моладзі і школьнікаў у літаратурным конкурсе «Дэбют», прозвішчы Наталлі Васько, Магды Бяляўскай, Веранікі Кардзюкевіч, добра вядомыя нашым чытачам. На такое прызнанне трэба працаваць доўгія гады. Вялікім сюрпрызам быў для нас літаратурны дэбют настаўніцы Ганны Кандрацюк з Нараўкі.

На працягу года мы правялі 106 рэдакцыйных конкурсаў «Польска-беларуская крыжаванка» і «Загадкі з роднай хаткі». Здаецца, няма ў рэгіёне больш папулярных конкурсаў! Кожны тыдзень мы атрымлівалі больш за 200 адказаў. Сярод конкурснікаў ёсць сябры, якія не прапусцілі ніводнага выпуску — гэта Вікторыя Гаць, Дам'ян Карнілюк, Магдалена Якубюк і Ася Нікіцюк.

Нам прыемна паведаміць, што пабольшылася амаль на сто асоб колькасць падпісчыкаў «Нівы». У гэтым месцы хочам падзякаваць настаўнікам за падтрымку ў цяжкіх, «некаляровых» гадах. Як адзначыла легендарная рэдактар Яніна Чарнякевіч, «Ніва» ад пачатку разлічвала на падтрымку свядомых беларусаў, сярод якіх на першым месцы нашы настаўнікі...

Напэўна хочаце ведаць, што чакае нас у 2018 годзе?

Як вядома 2018 год — гэта стагоддзе БНР і таксама стагоддзе Польскай Рэчы Паспалітай. З гэтай знакамітай нагоды мы прыдумалі шэраг адмысловых артыкулаў і конкурсаў. Хочам таксама арганізаваць Сустрэчы «Зоркі», якія ў гэты раз адбудуцца напрыканцы мая. Варта ўжо пазмагацца за свой удзел у гэтых, творчых і натхняльных, майстар-класах.

Як заўсёды чакаем вашых запрашэнняў на школьныя святы. Мы таксама заўсёды гатовы сустрэцца з вамі ў рэдакцыі «Нівы». Галоўнае, каб вы самастойна чыталі і заражалі сваім энтузіязмам сяброў. Каб для ўсіх нас залежала на існаванні і развіцці беларускай мовы!

З Новым годам сябры!

**Зорка**

Фота: Міры Лукшы

# У жыцці трэба кагосьці любіць!

Сярод калядных падарункаў мы прыдбалі кнігу Дар'і Вашкевіч «Баваўняная дзяўчынка»*. Яна распавядае пра дзяўчынак і хлопчыкаў ад двух да ста дзевятнаццаці гадоў. Яе можна чытаць удзень і ўначы, нашча ці толькі што пад'еўшы бабулінага супчыку, лежачы пад коўдраю або ўскараскаўшыся на яблыню.

Праз усе старонкі, прыаздобленыя акварэльнымі малюнкамі мастачкі Алены Медзяковай, прасочваецца адна праўда — у жыцці трэба кагосьці любіць. Інакш, нішто не клеіцца і не смакуе. А колькі радасці і цеплыні прыносяць нам звычайныя абдымкі, вядома, калі яны на сардэчнай ноце. Кніга трактуе пра шчырасць пачуццяў, ад якой сіла і радасць.




А з гэтым не проста ў маладым ды не толькі жыцці. Вашай увазе прапануем маленькі фрагмент кнігі пра вялікае каханне нібыта папяровых герояў:

*«Праз некалькі дзён Баваўняная дзяўчынка спаткала ў парку таго самага Плястыковага хлопчыка, але ён зноўку адмовіўся абдымацца.*

*— Я ж табе ўжо казаў, што ненавіджу абдымацца — гэта марнаванне часу! Я лепш пайду пагуляю ў футбол, — дадаў хлопчык і сышоў, пакінуўшы Баваўняную дзяўчынку адну.*

*Такія сустрэчы паўтараліся некалькі разоў. Але Баваўняная дзяўчынка не здавалася, яна была настойлівай спадарышняй. Аднойчы, здалёк пабачыўшы Плястыковага хлопчыка (у Баваўнянай дзяўчынкі былі вельмі вострыя вочы), яна неўпрыкмет, на дыбачках наблізілася да яго — і абняла ззаду! Пластыковы хлопчык замёр, агаломшаны. Хвілю, асцярожна выпусціўшы яго з абдымкаў, Баваўняная дзяўчынка запыталася:*

*— Ну як? Табе спадабалася? Ты адчуваеш цяпло?*

*— Не, — абыякава сцепануў плячыма...»*

Кнігу Дар'і Вашкевіч «Баваўняная дзяўчынка» можна выйграць у зорчыных конкурсах.

* Дар'я Вашкевіч, *Баваўняная дзяўчынка*, Мінск «Галіяфы» 2014.


Фота Міры ЛУКШЫ

Маргарыта САДОЎСКАЯ
Шымкі, ПШ у Міхалове

## Шкляныя вочы

Штодзень ранкам бачу мядзведзіка
Гляджу яму ў вочы
У яго прыгожыя шкляныя вочы
Вочы штучныя але сапраўдныя
Вочы з душой але без жыцця
Вочы якія заўсёды заплюшчаныя
Хаця я іх адкрываю
Заўсёды там таямніца
Ніколі не раскажуць што ведаюць
Ніколі не раскажуць што адчуваюць
Заўсёды будуць таямніцай

## Некалькі пытанняў

Чаму мы не дасканалыя
Як бывае ў фільмах?
Чаму ў кожнага недахопы
Якіх не пераскочыш?
Чаму мы не справядлівыя
Як гэтыя постаці з казкі?
Чаму не бачым дабра
Якое вакол нас?
Чаму гэтак цяжка асуджаць сябе
Калі іншым — усё роўна?
Чаму не паказваем пачуццяў
Якія ўсё пра нас скажуць?
Чаму хварэем
Калі столькі лякарстваў?
Чаму спрачаемся паміж сабой
Калі можна сябраваць?
І чарговае:
Чаму так цяжка на гэтым свеце жыць?

Алена ЦЕРАШКОВА

### Х

Хамячок у краме быў,
Поўны мех халвы здабыў.
Мех у хаце прыхаваць –
Раптам нехта скрадзе.
Лепш за шчокі запіхаць,
Так хоць не прападзе.

### Ц

Сонца апусцілася,
У раку скацілася,
Цэлы дзень свяціла ў донца.
Цешацца малькі на сонцы:
У цёплай бухце цішыня.
У ціхай бухце цеплыня.

### Ч

Чапля чайку запрашала
На вячэру ўвечары.
Чапля чайку частавала
Яблычкамі печанымі.
– Ах, вячэра смачная! –
Чайка чаплі ўдзячная!

### Ш

Шэсць шашкоў гулялі ў шашкі
З Пашкам, Сашкам ды
Наташкай
І шыпелі на мышэй:
Шабуршыце вы цішэй!
А шасцёра мышанят
Шылі шорты для шчанят.

### Ы

Мышка Пышка мые лыжкі,
А мартышка лушчыць шышкі.
Вожык высушыў грыбы,
Сыр прынёс каток рабы,
Тры вужы шыпяць з-пад
дзвераў:
– Зачакаліся вячэры!

### Э

Эскімосу эскімо сёння
недарэчы:
Цэлы вечар эскімос грэецца
на печы.
Есць варэнне эскімос,
Грэе пяты, грэе нос.
Бо назаўтра зранку трэба
На мароз ісці са стрэльбай!

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Разумнік і дрэвы

Спытаў аднойчы разумнік у дрэва:
— Ты ўсё расцеш угару, дык чаму адначасова ўсё глыбей і глыбей запускаеш яшчэ карані ў зямлю?
А дрэва падумала і адказвае:
— Як гэта, такі вялікі разумнік не ведае простай залежнасці. Без салідных каранёў мы нічога не вартыя, без апірышча ў зямлі нас знішчыць вецер. Вось, паглядзі на нашага брата бука або на сястрыцу сасну. Яны не запускаюць глыбока каранёў, таму іх часта перакідае і калоціць буралам.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

## УВАГА КОНКУРС! № 01-18

**Той узімку лютуе —**
**Мост нястомна будуе.**
**Гэты ломіць і гудзе,**
**За ім караван ідзе.**
**М.... і Л......**
**(У. Мацвеенка)**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 14 студзеня 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 50: агонь. Узнагароды, кніжку «Калядная каша» выйгралі Караліна Порац з Нарвы і Магда Якубюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

## Польска-беларуская крыжаванка № 01-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 50-17:**

Вяз, сказ, капуста, Ас, Оля, след, ява, Каляды, дар, сон, панарама. Ток, як, аса, слон, паляна, сусед, дыба, сто, калядка, ява, арка.

Узнагароды, кніжкі Міры Лукаш «Спеў дрэў» і «Падарункі» з аўтографам, выйгралі **Аляксандра Бакун, Аляксандра Іванюк** з ПШ № 1 у Гайнаўцы, **Клаўдзія Казлоўская, Якуб Карпюк** з Нараўкі, **Юлія Шкляжэўская** з Нарвы, **Гжэгаж Гопш** з Вэрстока, **Павел Сельвясюк, Вераніка Галёнка, Юлія Балеста, Амелія Васільчук** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!



# XIII Фотаконкурс «Падляшша ў аб’ектыве»

**Да XIII Фатаграфічнага конкурсу «Падляшша ў аб’ектыве» імя Віктара Волкава, які арганізуе Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы, прыступіла 55 чалавек, якія даслалі 158 фатаграфій. З іх ліку камісія вылучыла 41 фатаграфію на конкурсную экспазіцыю, якая будзе прэзентавацца ў Гайнаўскім белмузеі цягам года. Выстава адкрыта была 17 снежня, а папярэдзіла яе падвядзенне вынікаў фотаконкурсу і ўручэнне ўзнагарод для яго пераможцаў. За фатаграфіі з тэрыторыі Беласточчыны, дзе кампактна пражываюць беларусы, іх аўтары атрымалі ўзнагароды і вылучэнні.**



Лаўрэат першага месца Мікола Мендрыцкі з узнагароджанымі фатаграфіямі

Пра высокі ўзровень фатаграфій трынаццатага конкурсу «Падляшша ў аб’ектыве», які арганізуецца пад ганаровым патранатам маршалка Падляшскага ваяводства і бургамістра Гайнаўкі, распавёў член конкурснай камісіі Яраслаў Хыра. Бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак і намеснік старасты Гайнаўскага павета Ядвіга Дамброўская падкрэслілі важнасць ідэі арганізавання фотаконкурсу, які паказвае прыгожасць Падляшша. Дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк заявіў, што конкурсная выстава будзе таксама паказвацца ў іншых месцах у Польшчы. Згаданыя асобы ўручылі пераможцам конкурсу ўзнагароды, а яго ўдзельнікам дыпломы. Конкурсная камісія першую ўзнагароду прысвоіла Міколу Мендрыцкаму з Сямятыч, другую — Яраславу Якубчаку з Крынак, а трэцюю — Малгажаце Павэльчык з Беластока. Вылучэнні атрымалі Беата Вільчынская з Васількава, Кшыштаф Баравік з Гайнаўкі, Мая Аляксандра Аксэнтовіч з Орлі, Барташ Слівэцкі з Беластока, Яраслаў Яленскі з Быдгашчы, Францішак Ключынскі з Ломжы, Міхал Сленчэк з Быдгашчы і Пётр Таргонскі з Ольштына. Яраслаў Хыра прызначыў спецыяльную ўзнагароду ад сябе Наталлі Кныч з Козаў. Рашыўся на такі крок паказваючы, што варта рабіць запланаваныя нявострыя здымкі як разнавіднасць фатаграфавання, чым сам таксама займаецца. Да гайнаўскага фотаконкурсу ў мінулым прыступалі жыхары Рэспублікі Беларусь, якія выконвалі здымкі на Падляшшы і таму стаў ён міжнародным мерапрыемствам.

— Раней лёгка было нам выбраць лепшыя фатаграфіі, бо іх было нямнога. Аднак з году ў год дасылаюцца штораз цікавейшыя здымкі і іх тэхнічны ўзровень штораз вышэйшы. Сёлета мы вылучылі дзясяткі цікавых і выкананых на высокім узроўні здымкаў. Узнагароджаныя фатаграфіі — не выпадковыя. Відаць, што былі выкананы паводле плана і зроблены на высокім тэхнічным узроўні. Бывае, што нехта прышле дзве фатаграфіі цікавыя і правільна выкананыя, а трэці здымак бывае дрэннай якасці і гэта дыскваліфікуе такую асобу ад узнагароды. Мы адкрытыя на розныя тэмы на фатаграфіях і на наш конкурс можна дасылаць здымкі, якія ўжо публікаваліся. Праблемы паявіліся б, калі мы на падставе публікацыі акрэслілі б аўтара фатаграфіі, бо не павінны яго ведаць. Першае месца прызначылі мы Міколу Мендрыцкаму за здымкі выкананыя ў непаўторных абставінах у царкве і за цікавы краявід, які аўтару ўдалося захаваць вакол царквы. Другое і трэцяе месца мы прыдзялілі Яраславу Якубчаку і Малгажаце Павэльчык за цікавыя фатаграфіі выкананыя ў непаўторных абставінах і ў адпаведным часе. Ацэньваючы фатаграфіі звярталі мы ўвагу на кампазіцыю, святло, тэму і ўсе ўзнагароджаныя здымкі адзначаюцца высокім тэхнічным узроўнем, а задума іх выканання была цікавая, — гаварыў Яраслаў Хыра, што ацэньваў конкурсныя фатаграфіі разам з Бажэнай Валенцік (старшыня журы) і Тамашам Класоўскім.

— Гаворыцца, што Падляшша — асаблівае і гэта відаць на вашых фатаграфіях. Трынаццаты выпуск конкурсу ў свядомасці людзей атаясамліваецца з нейдачай, але для кагосьці будзе шчаслівым, — заявіла падчас афіцыйнага адкрыцця выставы намеснік гайнаўскага старасты Ядвіга Дамброўская.

— Фатаграфічны конкурс «Падляшша ў аб’ектыве», гэта не толькі захоўванне памяці аб выдатным фатографе Віктару Волкаве, але прамоцыя нашага Падляшша. Гэта таксама дакументаванне змен, якія адбываюцца на Падляшшы, — сказаў бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак.



Вынікі конкурсу падвялі і адкрылі экспазіцыю (злева) дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк, намеснік старасты Гайнаўскага павета Ядвіга Дамброўская, фатограф Яраслаў Хыра і бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак

На фатаграфічнае мерапрыемства прыбылі дырэктар Публічнай гарадской бібліятэкі ў Гайнаўцы Ала Грыц і дырэктар Гайнаўскага дома культуры Расціслаў Кунцэвіч. У гэтых установах таксама арганізуюцца фатаграфічныя выставы. Яшчэ пасля 17 снежня ў гайнаўскай бібліятэцы можна было паглядзець вялікую фатаграфічную выставу Гжэгажа Петрашэка «Засталіся толькі мацэвы». Нядаўна ў ГДК была прэзентавана вялікая выстава здымкаў Уладзіслава Завадскага. З’яўляецца ён прыхільнікам фатаграфічных конкурсаў па канкрэтна названых тэмах і не прымае ўдзелу ў конкурсе «Падляшша ў аб’ектыве» якраз з-за неакрэсленасці тэмы фатаграфій. Дырэктар белмузея Тамаш Ціханюк заявіў, што радуе яго пастаянны ўдзел у конкурсе асоб, якія добра фатаграфуюць і хаця спачатку не дабіваюцца поспеху, то дасылаюць фатаграфіі на конкурс чарговы і чарговы раз. Лаўрэат трэцяга месца Малгажата Павэльчык сказала, што дабілася поспеху за чарговым удзелам у гайнаўскім фатаграфічным конкурсе, а раней старалася папраўляць свой варштат працы.

— Я рашыўся фатаграфаваць усярэдзіне царквы і стаў гэта рабіць у маёй прыхадской Увасрасенскай царкве ў Сямятычах і іншых храмах. Я праваслаўны вернік і магу рабіць гэта падчас розных момантаў багаслужб, у якіх прымаю ўдзел. Тут на выставе прэзентуецца мой здымак, які выканаў я ва Увасрасенскай царкве ў Сямятычах, калі дым з многіх свечак спалучыўся з праменнямі сонца з акна. Гэта стварыла непаўторную атмасферу ў храме, якую ўдалося мне захаваць на фатаграфіі. Здымак звонку царквы зрабіў я падчас заходу сонца, калі яго прамяні прыгожа асвяцілі хмары і стварылі вельмі цікавы фон для фатаграфавання царквы. Трэці здымак выканаў я ў царкве на Гары Грабарцы, дзе хлопчык стаіць пад панікадзілам, у яго асвятленні. Я свае фатаграфіі паказваў на выставе «Колеры праваслаўя», у іншых месцах і прымаў удзел у розных конкурсах. Фатаграфіі рабіў я ў Лаосе і Індыі, але там выконваў здымкі па іншых тэмах, — сказаў лаўрэат першай узнагароды Мікола Мендрыцкі. Другое месца камісія прызначыла Яраславу Якубчаку з Крынак, які цікава сфатаграфаваў зімовыя краявіды з дрэвамі, ласямі і выканаў здымак зубра ў незвычайным асвятленні. Сказаў, што доўга фатаграфуе і стараецца вышукваць і рабіць здымкі цікавых месцаў у адпаведным часе.

— Усе ўзнагароджаныя фатаграфіі я выканала апошнімі гадамі. Удалося трапіць на момант, калі мужчына едзе на веласіпедзе каля Малочак, вядзе адначасна каля сябе каня, а збоку бяжыць сабака. Я выкарыстала гэтую хвіліну і выканала там цікавую фатаграфію. Гэтае сужонства, падчас майго ў іх візіту заўсёды было вясёлае і так удалося іх сфатаграфаваць каля старэнькай будоўлі. Мужчына, які перапраўляецца з каровамі праз раку, гэта таксама цікавая сцэнаграфія для фатаграфіі, але трэба было зрабіць адпаведны здымак, — гаварыла Малгажата Павэльчык, лаўрэатка трэцяй узнагароды.

— Фатаграфію буслоў на стаўбах я выканала ў Гаркавічах, абязлюдзелай вёсцы, распаложанай непасрэдна каля мяжы з Беларуссю. Раку сфатаграфавала я з моста каля Навадворцаў. Мы самавукі ў галіне фатаграфавання. Спатыкаемся ў сваёй кампаніі і адзін другому падказваем, што трэба выправіць на здымках і на што звяртаць увагу падчас фатаграфавання. Мы заснавалі васількоўскую групу, да якой належаць, між іншым, пераможцы сённяшняга конкурсу Яраслаў Якубчак і Малгажата Павэльчык, а на нашы спатканні прыязджаў таксама Мікола Мендрыцкі, — сказала Беата Вільчынска з Васількава, якая ў мінулым годзе на гайнаўскім конкурсе атрымала другую ўзнагароду, а ў гэтым годзе камісія прыдзяліла ёй вылучэнне. Штогод члены фатаграфічнага кружка, які дзейнічае пры Гмінным асяродку культуры ў Орлі, прымаюць удзел у гайнаўскім фатаграфічным конкурсе і ў гэтым годзе дзве дзяўчыны з гэтага кружка прыступілі да конкурсу «Падляшша ў аб’ектыве».

— Я сфатаграфавала сяброўку ў акне даўняй хаты з аздабленнямі і за гэты здымак атрымала вылучэнне. Раблю здымкі нядоўга, але фатаграфаванне ўцягвае і маю намер прадаўжаць ім займацца, — гаварыла Мая Аляксандра Аксэнтовіч з Орлі, якая прыехала разам з бацькамі, дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Орлі Аннай Несцярук і сяброўкай з фотакружка Вікторыяй Леанюк.

Кшыштаф Баравік з Гайнаўкі атрымаў вылучэнне за фатаграфію зуброў на фоне царквы ў Ласінцы. Удалося яму трапіць на такі момант, калі зубры з Белавежскай пушчы пасвіліся непадалёк храма. Камісія дацаніла выкарыстанне адпаведнага моманту, каб зрабіць цікавы здымак.

На выставе можна, між іншым, пабачыць панараму Белавежы на фатаграфіі Лукаша Байко, здымкі Супрасльскай лаўры, ці царквы ў Дубічах-Царкоўных.

— Праваслаўе, незвычайная прырода Белавежскай і Кнышынскай пушч, разлівы Бобры і Нарвы, архітэктура — як у калейдаскопе можна захапляцца Падляшшам. Некаторыя дасланыя фатаграфіі адназначна напаміналі работы Віктара Волкава, нашага патрона, паказаннем тэмы, формулай і кліматам, — заявіла Агнешка Ціханюк з белмузея, арганізатарка конкурснай выставы.

— Віктар Волкаў быў найбольш вядомым і прызнаным фатографам на Беласточчыне і зараз з’яўляецца патронам нашага фатаграфічнага мерапрыемства. Дачакаліся мы трынаццаці выпускаў і ўжо ўдалося сабраць звыш дзвюх тысяч конкурсных здымкаў. Ёсць на іх людзі, якія ўжо памерлі і будоўлі, што таксама ўжо зніклі. На дасланых да нам фатаграфіях многа прыроды, ёсць вёскі і іншыя месцы, дзе жывуць беларусы, праваслаўныя цэрквы, часоўні і храмы іншых канфесій. Удзельнікі нашага конкурсу фатаграфавалі даўняе і сучаснае Падляшша і розныя тэмы бачым на сённяшняй экспазіцыі, — гаварыў дырэктар белмузея Тамаш Ціханюк, а Яраслаў Хыра таксама заўважыў, што адчуваецца присутнасць Віктара Волкава падчас гайнаўскага фотаконкурсу праз здымкі выкананыя ў яго стылі. На конкурсных фатаграфіях прэзентаваных на выставе ў белмузеі можна ўбачыць прыгожыя краявіды з прыродай, жывёлай, людзьмі ў розных абставінах, рэлігійныя і іншыя тэмы.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**



Дэбют

Ян КАРПОВІЧ / Гарадок

# Вяселле Геніка

Легкавы самаход маркі „Сірэна", якую тады называлі „каралевай шос", хутка імчаўся ў напрамку Нязбудкі і далей на Юшкаў Груд і Нараўку.

Спадар Зыгмунт, афіцэр-пагранічнік, спраўна абмінаў ямы ды калдобіны, уважліва ехаў, каб без праблем давезці музычны калектыў „Гарадчане" і гукаўзмацняльную апаратуру ў Гушчэвіну. Гэта была родная вёска нашага героя і сябра Геніка, распаложаная на ўскраіне Белавежскай пушчы. Ехалі мы з задачай сыграць на кавалерскім вечары і вяселлі нашага знакамітага калегі. З нашага боку гэта быў музычны падарунак. Генік у гэты час у нашым Гарадку быў вялікай „шышкай", як казалі тутэйшыя, „прывезены ў тэчцы". Закватараваўся ён у блёку швейнай фабрыкі „Каро", у якой у тым часе працавала амаль 500 жанчын з усяе Беласточчыны і Польшчы.

Многія нашы хлопцы, пажаніліся часта з прычыны цяжарнасці дзяўчат, якія прыехалі ў Гарадок за працай.

Гарадок разрастаўся, будаваліся ў тым часе два раёны „Манхатан" на захад і „Пяскі" на ўсход. Першыя яго крокі, як сам маўляў, былі ў Гарадоцкі дом культуры, дзе была бібліятэка, кавярня і збор моладзі. Адбываліся танцавальныя забавы, пачыналіся дыскатэкі, працавалі аматарскія калектывы — у гэтым „віры" моладзь хутка вязалася ў пары.

Іграючы на вяселлі ў Лёвіка, на якім быў наш Генік, у разгары весялосці пры багатым застоллі яму „wpadła w oko" чарнявая прыгажуня, мая добрая сяброўка, з якой я яго пазнаёміў у час забавы.

Яны хутка пасябравалі, сустракаліся, і пэўна ў сябе закахаліся, бо неўзабаве заручыліся і запрасілі нас іграць на вяселлі. У нашым народзе музыкантаў шанавалі, як кажа сябра прафесар Лёнік, які ў тым часе іграў са мной на бубнах. Музыкант быў носьбітам традыцыі і музычнага багацця народу і асяроддзя. Кавалерскі вечар, развітанне з вольным станам і ўваход у дарослае жыццё — гэта нагода каб сустрэцца і выпіць з калегамі, з якімі праходзілі школьныя і кавалерскія гады.

Мы, калектыў „Гарадчане" ў складзе Юрка гарманіст, Янка гітарыст, Коля арганіст і Лёнік бубнач, пасля багатай вячэры, усталяваўшыся на пляцоўцы ўквечанай бярозкамі і стужкамі, „урэзалі" вясёлыя, беларускія, польскія, украінскія і рускія песні і танцы.

Гуляла ўся вёска і наваколле, бацька Геніка ў час забавы прыносіў нам паесці і выпіць. Перапынку на вячэру музыкантам не было.

Усе захапляліся нашымі музыкай і песнямі, забаву цяжка было закончыць, усе прасілі і крычалі «яшчэ! яшчэ! яшчэ адны!..». Пасля забавы прыклеілася да нас некалькі вясковых дзяўчат, з якімі мы крыху пацiскаліся на лаўцы, пажартавалі ды пайшлі спаць у гумно.

Раніцай знячэўку пачуў я знаёмы голас: «Хлопцы, уставайце! — трэба паправіцца, так, так, ад чаго захварэў, тым і лячыся!» Гэта гаспадар нёс бутэльку гарэлкі, а Генікава мама закуску, наліўшы нам па добрай чарцы, пажадалі нам добрага здароўя і каб добра мы зайгралі на вяселлі.

Ужо пад абед мы спакойна чакалі, калі будуць сходзіцца родныя і госці з боку маладога, каб іх прывітаць вясельным маршам.

На панадворку моладзь упрыгожвала фурманкі бярозкамі і кветкамі, а коней стужкам і званочкамі. Самы першы з'явіўся сват-маршалак вяселля, дзядзька маладога, якога гаспадыня абвязала ручніком, а гаспадар уручыў качалку — „сінонім улады".

Пры гэтым мы ўрачыста зайгралі песню „Прыйшоў на вяселле наш сваток". Пасля абеду пачалі сходзіцца госці з мясцовых Грушак, Нараўкі і Беластока.

Абнімаліся, віталіся, маршалак запрашаў да стала на кароткі пачастунак. Маладога даглядала старшая дружба, каб як найлепш выглядаў. Так і было — Генік рослы, стройны, мог падабацца і прывабіць не адну дзяўчыну. Калі ўсе з'елі і выпілі, маршалак закамандаваў сядаць на фурманкі і ехаць па маладую. Для музыкантаў павозка была асобная, зараз за маладым і старшай дружбай. Як налічыў, было дванаццаць фураў. «Па каням!» — крыкнуў сват і свіснуў пугай па пары гнедых, якія рванулі і панесліся за імі ўсе.

З маршам і вясёлай музыкай, са смехамі і жартамі, цераз лясы і балоты, даехалі да маладой. Прывіталі радню маладой і адправілі маладых да шлюбу ў трасцяніцкую царкву (так упрасілі бацькі маладой).

— Музыканты добра зайгралі, вялікі дзякуй! — крыкнуў сват са стараны маладой. — Музыканцікі, сядайце за стол, трэба выпіць за маладых, хай ім добра вядзецца!

Сват наліў па кілішку — запахла цукроўкай, а наш наймалодшы музыкант круціць носам: «Цёцю, можа, маяце манапалёўку?» — «А дэ яе ўзяць?» — адбуркнула, а потым ласкава кажа: «Хлопці, бэрэтэ, бэрэтэ, вона з мэдом». І праўда, да канца вяселля было ўсё з мэдом і мэдом. У галаве як бы нармальна, а не ўстаіш — ногі як з ваты.

Перад самай вёскай, прывітаўшы маладых са шлюбу, пачаўся разгар вяселля. Малады дарыў бацькоў маладой, а маладая бацькоў і радню маладога. Тостамі з пажаданні многіх лет і сто гадоў не было канца. Музыка злівалася з гоманам гасцей, якія пры сталах выпівалі, знаёміліся, гутарылі, хваліліся колькі ў пасаг далі, дзе хто працуе і колькі зарабляе.

Калі ўжо ўсе добра выпілі і паелі, пачалося дарэнне маладых. Наш сват тут паказаў свае фокусы. На кожную пару сумеў прыдумаць вершык ці прыказку, што развесяляла застолле.

«Дару дугою, каб не бегаў за другою», — лупцаваў качалкай па бэльках, аж парахня сыпалася, заклікаючы: „Даруйце! Не шкадуйце! На маладое, на калыску, на пялюшкі і радзюжкі!".

На „добры вечар" зайгралі мы пасля дарэння. Гэта, можна сказаць, быў наш экзамен з рэпертуару. Бывала, заказвалі песні, якіх мы яшчэ не чулі, крычалі „грай або грошы аддай". Але найчасцей заказвалі такія, якія мы добра выконвалі, з мясцовага фальклору, польскія, беларускія і песні прывезеныя з бежанства.

Вясельная забава адбывалася ў вясковай святліцы. Пачалі мы ад вальчыка для маладых „На хвалях Дуная". Пасля ігралі мы ўсё, полькі, танга, казачка, джайф. Вельмі папулярныя былі ў той час Ляскоўскі, Паломскі, „Чырвоныя гітары", Пугачова і гэтак далей. На забаве людзей было шмат, апрача вясельных гасцей: збеглася ўся вёска — забавы вясельныя былі без білетаў. Пры сценах на лаўках сядзелі старэйшыя жанчыны, каб налюбавацца як гуляе моладзь, і каб ацаніць маладых як разам выглядаюць і ці маладой заранёў не вырас жывот. Зайграўшы на „добры дзень", у панядзелак, пасля абеду, маладыя з маладой і гасцямі ехалі гасцяваць і весяліцца да маладога. Сваты і старэйшая дружба везлі прыданае, пасаг, і ўсё, што здарылі госці.

Перад самой вёскай маладога аднавяскоўцы зрабілі „браму". Маладыя, прыняўшы пажаданні многіх лет, далі гасцінец — вядома, была гэта гарэлка і каўбаса. У маладога вяселле было ўжо ў вялікім запоі, многіх трымала яшчэ ўчарашняе. Забава была зноў на пляцоўцы, пасля якой усе, памучаныя, палягалі спаць у гумне.

Нам цяжка было заснуць. Чуваць было нейкія стогны, цмоканні і рогат. Раніцай усіх моцна рэзала па цукроўцы з мэдом. Лячыліся тым самым, што пілі, а хто падпіўкам. Калі мужчыны выйшлі на панадворак закурыць, наш Юрка-музыкант нястомна іграў свае любімыя кавалкі, ланцуг рваў злы велізарны сабака. Хтосьці з іх сказаў: «Хто да яго падыдзе, стаўлю літар гарэлкі! Давайце заспорым!». Наш Юрка толькі гэтага чакаў. Пераключыўшы рэгістр гармоніі на найвышэйшыя тоны, іграючы са свістам і піскам, памалу ішоў у напрамку злоснага сабакі, які спярша пачаў скавытаць і скуголіць, аж урэшце ўбіўся ў будку, з якой немагчыма было яго дастаць. Юрка, падышоўшы, накрыў яго будкай і так зарабіў літроўку.

Раніцай у аўторак ужо аўтобусам вярталіся мы ў Гарадок. Купіўшы білеты, уселіся на задніх сядзеннях. Наш Юрка з гармонікам не разлучаўся, яму ўжо скура злезла з левай рукі ад паска. Усеўшыся спераду, іграў свае найлепшыя песні. Нават кіроўца яго пахваліў: „Panie, jak pan gra, to maszyna lepiej ciągnie!". Заходзілі ў аўтобус людзі, а Юрка іграць не пераставаў. Не даязджаючы Міхалова: „Stop, bilety do kontroli". Кантралёр па чарзе правярае білеты, а тут раптам: „Szanowna pani, a czemu nie ma biletu?!" — „Oj, panoczku, — паказала на Юрку, — як ён зайграў, то я забылася пра ўвесь свет, а вы мяне пра білет пытаяце?!». Аўтобус скручваўся ад смеху: „I kto tu winien — muzykant". Нашто іграў і жанчыну зачараваў, што пра ўсё забылася.

Праз тыдзень ігралі мы на падвясёлку і вярнуліся з інструментамі.

Потым яшчэ мы некалькі раз ігралі ў сям'і Геніка з вялікім поспехам.



Фота Міры ЛУКШЫ



# Засталіся адно ўспаміны (33)

Вёска Кнарыды Бельскай гміны аддаленая ад гміннага цэнтра каля дванаццаці кіламетраў. Сяло раздзяляе на дзве часткі асфальтаваная дарога Бельск-Падляшскі — Сямятычы. Вёска вялікая з мешаным, праваслаўным і каталіцкім, насельніцтвам. Кінафільмы дэманстравалі мы ў святліцы, якая знаходзілася перад вёскаю — на пашы пры дарозе. У вёсцы ў пачатках шасцідзясятых гадоў не было электратоку. Запускалі мы тады агрэгат. На кінасеансы прыходзіла шмат людзей. Найгорш было зімою. Зала вялікая — на дзевяноста гледачоў, адна з большых у наваколлі, неабагрэтая, хоць і была там кафельная печка. Жыхары Кнарыдаў станоўча ставіліся да культуры. У святліцы моладзь часта арганізавала танцавальныя вечарыны і выступленні калектываў мастацкай самадзейнасці. Напрыклад 19 студзеня 1963 г., на Вадохрышча, Кнарыды наведаў мастацкі калектыў з Сасін, які запрэзэнтаваў «Паўлінку» Янкі Купалы. Прыйшло шмат публікі. Выступ спадабаўся, аб чым сведчылі бурныя воплескі. Усё было б добра, калі б не падпіўшыя кнарыдаўскія «джэнтльмены», якія перашкаджалі старэйшым вяскоўцам глядзець вясёлую камедыю. Выступ закончыўся супольнай забавай. Пасля святліца пацярпела ад пажару. Кінасеансы дэманстравалі ў мураванай школе на прасторным калідоры. Кіраўніком школы быў Пятро Рыжык — сімпатычны чалавек, які дружыў з кіношнікамі і акуратна ставіўся да арганізаваных раніцай для школьнікаў. На кінасеансы ў Кнарыды прыходзілі жыхары Старога Сяла. Заўзятым кіношнікам быў мясцовы кладаўшчык, як не памыляюся, Віцэк. Яго гаспадарка знаходзілася за вёскаю пад лесам. Лічыўся ён нашым кампаньёнам. У машыне праводзілі мы з ім размовы, а ён інфармаваў нас аб мясцовых навінках.

На Бельшчыне заязджалі мы яшчэ ў Пятрова-Кшываколы Боцькаўскай гміны. Кінасеансы дэманстравалі ў школе. Вёска каталіцкая — «шляхецкая» як у нас называюць. Там абавязкова пры прывітанні трэба было сказаць «пахвалёны», інакш не было размовы. Школа межавала з лесам. Летам мы хадзілі па грыбы, пасля з іх варылі суп, смажылі. На процілеглым баку шашы знаходзілася вёска Пятрова-Траяны. Але няшмат людзей прыходзіла адтуль глядзець кіно, прытым школьная зала магла змясціць адно 35 гледачоў. У Пятрова-Кшываколы мы заязджалі раз на два, а нават тры месяцы. Пасля зусім выкраслілі з маршруту, паколькі ў плане былі сёлы з большай прысутнасцю гледачоў на сеансах.

(працяг будзе)

Уладзімір СІДАРУК

# Апошні званок

31 снежня скончыўся тэрмін абмену пластамасавых пашпартоў, выдадзеных у 2007 годзе. Паводле Міністэрства лічбавізацыі ў лістападзе 2017 года сапраўднасць затраціла 552 тысячы пашпартоў і 435 тысячы ў снежні. Хто не выканае абавязку абмену, дык можа мець праблемы. Не зможа, напрыклад, атрымаць банкавы крэдыт, аформіць службовыя справы ў дзяржаўных установах ці паехаць за мяжу. Самай балючай затратай можа быць грашовы штраф у памеры пяці тысяч злотых. Такі самы штраф назначаецца таму, хто прытрымлівае чужы дакумент. Паколькі пашпарты не выдаюцца «ад рукі», а чакаць трэба месяц часу, дык «непаваротны» могуць мець сур'ёзныя праблемы. Каб гэтага пазбегчы, хопіць падаць заяву ў адвольную гмінную або гарадскую ўправу, неабавязкова ў месцы пражывання. Заявы можна прад'яўляць таксама па інтэрнэце. За пашпарт нічога не плаціцца. Паводле дадзеных Міністэрства лічбавізацыі пасля новага года можа быць каля двух з паловай мільёна несапраўдных пашпартоў. Хто абмяняў пашпарт у 2007 годзе і меў закончаных 65 год, дык зараз дакумент не падлягае абмену, паколькі пашпарт быў выдадзены на неабмежаваны тэрмін, з адным выключэнем — калі дакумент або фатаграфія былі пашкоджаны, тады можа замяніць на новы

(ус)




Колькасць школ з беларускай мовай навучання штогод толькі скарачаецца. У большасці буйных гарадоў, такіх, напрыклад, як Магілёў, іх няма зусім. Стала так акурат пасля прыходу да ўлады цяперашняга прэзідэнта, якому беларуская мова была косткай у горле, бо ён не мог на ёй выказаць нічога „вялікага". Праўда, і на рускай мове, якой Лукашэнку так не хапала, ён за амаль чвэрць стагоддзя нічога вялікага не выразіў, але час у яго яшчэ ёсць. А вось для беларускай мовы часу становіцца ўсё меней, бо падаўляючая большасць дзяцей у Беларусі яе ўжо амаль не разумее і лічыць замежнай.

Беларуская мова, магчыма, за прайшоўшы час кіравання Аляксандра Лукашэнкі ўвогуле б знікла, калі б не патрэба ў ёй у некаторай часткі грамадства, асабліва таго, якое пражывае ў сталіцы, дзе працэнт падтрымкі дзеючага правіцеля традыцыйна ніжэйшы, чым па ўсёй Беларусі. З-за гэтага там, хоць і ў невялікай колькасці, але існуюць навучальныя ўстановы, дзе ўсе прадметы выкладаюцца па-беларуску. Адной з такіх устаноў у Мінску з'яўляецца гімназія № 23 з беларускай мовай навучання.

Варта адразу адзначыць, што гімназія ў Беларусі гэта не тое, што гімназія ў Польшчы, то-бок гэта не класы паміж пачатковай школай і ліцэем. Гімназіяй у Беларусі называецца школа, дзе, як лічыцца, даюць больш глыбокія веды.

Каб больш падрабязней даведацца пра 23-ю мінскую гімназію, варта зайсці на яе сайт у інтэрнэце, што месціцца па адрасе **http://gymn23.minsk.edu.by.** Праўда, з першым позіркам на сайт становіцца зразумела, што найсучаснейшых аздоб у сайтабудаванні тут мы не ўбачым. Хутчэй наадварот — нейкія недаробкі таго, што было ў модзе гадоў дзесяць таму.

Сайт мае дзяленне на тры часткі. У першай злева месціцца „Навіны гімназіі". Датычна дадзенай рубрыкі ніякіх заўваг няма, але яны з'яўляюцца далей — там, дзе ўладальнікі сайта вырашылі распавесці пра навіны ад чыноўнікаў ад адукацыі. Гэтыя паведамленні ідуць ніжэй і пазначаны „Навіны ўпраўлення адукацыі Савецкага раёна г. Мінска" і „Навіны камітэта па адукацыі Мінгарвыканкама". Хто падказаў стваральнікам дадзенага сайта змясціць навіны там, дзе да іх практычна немагчыма дабрацца, застаецца толькі здагадвацца. Таксама застаецца здагадвацца, навошта ўвогуле размяшчаць „Навіны міністэрства адукацыі" амаль у самым нізе трэцяй часткі сайта.

Незразумеласцей на сайце хапае, аднак ёсць і тое, на што варта засяродзіць увагу. Гэта „гістарычная" рубрыка, якая ідзе першай у пераліку ўсіх рубрык уверсе цэлага выяўлення. Адтуль цікаўны карыстальнік даведаецца, што гімназія мае досыць незвычайную гісторыю. Так, у канцы XIX — пачатку XX стагоддзяў у Мінску па вуліцы Няміга-Ракаўскай, 9 працавала Талмуд-Тара (яўрэйская школа). „Зараз гэта вуліца не існуе, а праходзіла яна прыблізна ад сучасных скрыжавання вуліц Няміга і Рэспубліканскай да вуліцы Адоеўскага. У 1917 годзе Талмуд-Тара атрымала найменне „46 ніжэйшае пачатковае вучылішча", а ў 1919 годзе — „46 Савецкая працоўная яўрэйская школа I-й ступені", — распавядаецца ў рубрыцы. Потым былая яўрэйская школа, дзе выкладанне вялося на ідышы, станавілася сямігодкай, шпіталем (падчас вайны), рускамоўнай жаночай сярэдняй школай, беларускамоўнай жаночай сярэдняй школай. З 1959 года сярэдняя школа № 23 стала школай з рускай мовай навучання, і толькі з 2002 года гэта беларускамоўная гімназія.

Аляксандр ЯКІМЮК




Лозунг Беларускай Народнай Рэспублікі ўпершыню прагучаў яшчэ ў 1917 годзе, у прыватнасці на Усебеларускім з'ездзе (кангрэсе) у Мінску. Незалежніцкія настроі ў беларускім руху ў значнай ступені былі выкліканы палітыкай Часовага ўрада Расіі, які не хацеў лічыцца з патрабаваннямі беларускіх арганізацый аб нададні Беларусі статусу аўтаноміі ў складзе Расійскай дэмакратычнай федэратыўнай рэспублікі, а таксама палітыкай Савета Народных Камісараў Расіі, які вёў перагаворы з Германіяй пра лёс Беларусі без удзелу ў іх прадстаўнікоў беларускага народа. Незалежніцкія тэндэнцыі ўзмацніліся пасля разгону ў самым канцы года Усебеларускага з'езда. З'езд быў разагнаны ў ноч з 30 на 31 снежня. Член часовага бюро ВРК Заходняга фронту Мікалай Крывашэін (многа пазней, бо ў 1936 годзе гэты адыёзны чалавек расстраляны быў НКВД як „трацкіст") уварваўся з падпарадкаванымі яму салдатамі ў залу, дзе адбывалася пасяджэнне з'езда. Усебеларускі Кангрэс быў разагнаны. Пасля гэтага расчараваліся ў палітыцы кіраўніцтва бальшавіцкай партыі нават так званыя „абласнікі" (сябры Беларускага абласнога камітэта з Петраграда), якія пасля разгону з'езда ўвогуле спынілі актыўную дзейнасць.

Нягледзячы на разгон бальшавікамі з'езда, ужо на наступны дзень 18 (31) снежня а 10-й гадзіне раніцы дэлегаты з'езда, не афішуючы яго працяг, сабраліся ў Мінскім дэпо Лібава-Роменскай чыгункі, дзе пад аховай сваёй міліцыі і чыгуначнікаў працягнулі пасяджэнне. Была прынята новая рэзалюцыя. У ёй пастанавілі: «Лічыць, што Першы Усебеларускі з'езд разагнаны сілай. Раду З'езда ў складзе 67 чалавек прызнаць выканаўчым органам з'езда. Лічыць Раду З'езда вышэйшай установай Краю і даручыць ёй усю паўнату ўлады ў Беларусі. Папоўніць Раду дэлегатамі земстваў. Лічыць распушчанымі ўсе беларускія арганізацыі, што існавалі да гэтага, акрамя Цэнтральнай Вайсковай рады, якая існуе як орган, падпарадкаваны Радзе З'езда».

Як легальны орган улады працягвала дзейнічаць Рада Усебеларускага з'езда на чале з сацыялістам Язэпам Лёсікам, спецыялістам у галіне беларускай мовы. Як вядома, Язэп Лёсік — дзядзька беларускага паэта Якуба Коласа. Рада працягвала засядаць паўлегальна ў памяшканнях дэпо пад аховай рабочых. Яна стала юрыдычнай пераемніцай усёй паўнаты ўлады з'езда.

22 снежня 1917 г. (3 студзеня 1918 г.) разгсварыла Выканаўчы камітэт Рады Усебеларускага з'езда з 10 чалавек на чале з Язэпам Варонкам. Яму даручылі заняцца беларусізацыяй саветаў на тэрыторыі Беларусі, а ў зручны момант узяць уладу ў свае рукі. Гэты Выканкам стаў правобразам беларускага ўрада. Але ў пачатку 1918 года, калі ў Беларусі перамаглі бальшавікі, ён дзейнічаў у паўлегальным становішчы.

Улада бальшавікоў на той момант фактычна ўсталявалася толькі ў гарадах і буйных мястэчках, і асабліва — на фронце. Прыкладам, у Мінску бальшавіцкія ўлады не паспелі да вясны нават закрыць Дом губернскага дваранскага сходу і гэтая ўстанова працягвала існаваць.

Тым часам у Брэст-Літоўску, акупаваным нямецкім войскам, вяліся перамовы аб міры паміж дэлегацыяй РСФСР з аднаго боку і дэлегацыямі краін Цэнтральнага блока — Нямеччыны, Аўстра-Венгрыі, Турцыі і Балгарыі, з іншага.

Да абвяшчэння БНР заставалася менш трох месяцаў...

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# НАВАГОДНІЯ ПАЖАДАННІ

Мінуў чарговы, бурлівы год XXI стагоддзя. Што прынясе грамадству ў падарунку Дзед Мароз у наступным годзе, цяжка сказаць. Адно пэўна, нічога аптымістычнага. Як вядома краіна, рэфармаваная «добрай зменай» на міжнароднай арэне застаецца адно ў кампаніі з Віктарам Орбанам. Еўрапарламент рыхтуецца да пуску ў ход 7 параграфа Лісабонскага дагавора. Гэта абазначае ізаляцыю ў еўрапейкай сям'і. Як пісаў Канстанцін Сіманаў у «Жывых і мёртвых» — адзін у полі не воін. Галавою мур не праб'еш. Чаго затым можна спадзявацца ў бліжэйшай будучыні? На маю думку, адзінства ў народзе. А такога не прадбачваецца. Татальная апазіцыя слабенькая. Няма важака. Кожны ў свой бок цягне, як у байцы Івана Крылова «Лебедзь, шчупак і рак».

*Там, дзе еднасці і згоды*
*Няма шчырых у людзей,*
*Праца іхняя заўсёды*
*Ліха, марна прападзе.*
*У калёсы запрагліся*
*Лебедзь ды Шчупак і Рак;*
*З усіх сіл вязці ўзяліся.*
*Дый не зрушаць воз ніяк.*
*Пад нябёсы Лебедзь рвецца,*
*Шчупак цягне у ваду,*
*Распусціўшы клюшні, пхнецца*
*Рак назад, як на бяду!*
*Хто з іх вінен, хто нявінен,*
*Не нам гэта раз'ясняць,*
*Толькі ж і дасюль калёсы*
*Як стаялі, так стаяць!*

Святая праўда. Калі няма парадку ў вярхах, дык паспрабуйма з'яднацца ў нашых Малых айчынах. Трымаймася лозунгу «ўсе рукі на палубу» ў самаўрадавых выбарах. Не дазваляйма дашчэнту зруйнаваць краіну Праву і справядлівасці, бо гэта будзе для нас усіх крышка. Затым заўчасна рыхтуймася да самаўрадавых выбараў. Таму хацелася б пажадаць беларускай меншасці разважлівых думак у прыманні рашэнняў, пакоры і спакою духа, веры, надзеі і любові, а журналістам «Нівы» і чытачам ды сімпатыкам роднага часопіса — добрага здароўя, поспехаў у працы і сямейным жыцці, шмат сонечных дзён, здзяйснення мараў!

Затым спакойных і вясёлых Каляд ды шчаслівага Новага 2018 года!

**Уладзімір СІДАРУК**

# Сетка веласіпедных сцежак

У Беластоку з кожным годам прыбывае веласіпедных сцежак-дарожак. Цяпер маем іх больш ста кіламетраў. Некаторыя з іх маюць даўжыню да 3-5 кіламетраў, гэта, між іншым, пяцікіламетровая веласіпедная сцяжынка ўздоўж вуліцы 42 Пяхотнага палка (раней была гэта вуліца 27 Ліпеня) на жыллёвым пасёлку Выгода. Зараз з пасёлка Выгода ў цэнтр горада даедзем 2-кіламетровай сцяжынкай ад алеі Пілсудскага да вуліцы ген. Андэрса. Новыя трасы для веласіпедыстаў пабудавалі па вуліцах Вярбовай і Канстытуцыі 3 Мая. На некаторых артэрыях дарожкі бягуць нават паабапал вуліц, між іншым, на вуліцы ген. Мачка і ген. Клеберга. Каб было больш бяспечна ехаць, пабудавалі дарожкі над рачулкай Белай ды пад двума мастамі ўздоўж алеі Пілсудскага да вуліцы Палацовай (гэта ў цэнтры горада).

У 2017 годзе пабудавалі новыя веласіпедныя шляхі, між іншым, пры вуліцы Браніцкага, Радзымінскай, I Арміі Войска Польскага, Пагоднай, Звяжынецкай і ген. Берлінга ды яшчэ ў пачатку снежня мінулага года распачалі пабудову 3-кіламетровай сцежкі з Беластока ў Васількаў. Так, так, сцежкі з аднаго горада ў другі — з Беластока ў Васількаў.

Варта дадаць, што для цыклістаў вельмі важна, каб веласіпедныя сцежкі часцей спалучаліся і была магчымасць спакойна даехаць па іх з перыферыі ў цэнтр Беластока.

# У Міхалове

У Міхалове Беластоцкага павета многае што плануюць, але і робяць для дабра ўсіх жыхароў гэтага адносна невялікага, бо ўсяго амаль 4-тысячнага горада.

Зараз усё на добрай дарозе і неўзабаве пачнуць пабудову новага прадшкольля ды возьмуцца за ўцяпленне (тэрмамадэрнізацыю) будынка Пачатковай школы імя Уладыслава Сыракомлі ў Міхалове.

Стала неабходна і таму зараз разбудоўваюць водаправодную і сцёкавую сеткі на вуліцах Сасновай і Яваравай ды мадэрнізуюць ачышчальню сцёкаў.

Надышла пара перабудовы вуліцы Клёнавай ды добраўпарадкавання пляцоўкі, распаложанай паміж вуліцамі Сонечнай і Пясковай.

Міхалоўскія самаўрадаўцы ўхвалілі дафінансаваць сумай больш за паўмільёна злотых 50 уласнікаў дамоў, у якіх жыхары згодны памяняць свае дасюлешнія старыя печы на новыя. Мае гэта спрычыніцца, між іншым, да таго, што ў горадзе на ўскраіне Кнышынскай пушчы паветра будзе больш чыстае.

# Забруджаныя ручайкі

Вёска Плянта Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета складаецца з трох частак: дзве раздзяляе чыгунка, а трэцяя — аддаленая ад чыгункі ды за лесам. У сярэдняй частцы сяла плывуць цераз лес і сенажаці тры-чатыры прыгожыя ручайкі. Над імі растуць вялікія стройныя вольхі і елкі ды пры самой дарозе прыгожы галінасты дуб. Ручайкі збягаюцца перад насыпам павятовай асфальтавай дарогі, дзе ёсць масток. Тут стаіць двухпавярховы бела-шэры мураваны будынак для чыгуначнікаў, якія пераводзяць стрэлкі або замыкаюць пераезд, калі будзе ехаць поезд.

Мне падабаецца глыбокі ручаёк, які плыве цераз палянку, парослую лугавой травой ды па край густой сцяны лесу. Ён убірае ваду з іншых невялічкіх прытокаў. Тут асабліва прыгожы краявід вясной і восенню. Я часта езджу на ровары па вышэйзгаданай асфальтавай дарозе і мой нос улавіў непрыемны пах, які плыве ад ручаёў. Часамі — а ўжо перш-наперш пад вечар — бывае ён асабліва дакучлівы. Гэта не інакш — нехта з тутэйшых жыхароў спускае ў роў нечыстоты з перапоўненага прыдамашняга септыка, якія трапляюць да ручаёў. Вось адтуль той смурод.

Варта дадаць, што ў Плянце, якая налічвае 154 чалавекі, няма каналізацыі. Быў нават зроблены план каналізацыі гэтай вёскі. Чыгуначныя ўлады ПКП дазволілі прабіцца з трубамі пад насыпамі пуці. Ды не далі згоды два-тры гаспадары, праз агароды якіх мелі капаць равы і класці каналізацыйныя трубы. І з-за гэтага ўсё — як кажуць — развалілася. Гміна тады мела грошы і іх — каб дзе-небудзь не забралі — неўзабаве выкарысталі на пабудову каналізацыі ў іншай вёсцы — у Міклашэве. І там карыстаюцца каналізацыяй.

**(яц)**

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — кітайскую пагаворку.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| | 11 | | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |

**1.** прыбор вудзільніка = 3 _ 10 _ 9 _ 4 _;

**2.** Шарль, французскі кампазітар (1818-93), м.інш. оперы „Рамеа і Джульета" = 7 _ 6 _ 1 _ 2 _;

**3.** трэці гук музычнай гамы = 5 _ 11 _;

**4.** урачысты верш у... водары = 8 _ 17 _ 18 _;

**5.** Рыгор, беларускі фалькларыст і музычны дзеяч (1892-1978) = 14 _ 13 _ 15 _ 12 _ 16.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 51 нумара**

Ацёк, Іўе, мама, маці, чын, язмін.

Рашэнне: **Зіма ўцякае цёмнымі начамі**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 07.01 — 13.01

**(22.03. — 20.04.)** Не спрыяюць табе зоркі і нават глядзяць крыва (дзве першыя дэкады). Цяпер мусіш падвоіць ці нават патроіць свае высілкі. Навал працы. Але 5-11.01. удала пераможаш канкурэнцыю. 6-8.01. прапанова атракцыйнага выезду. Не рабі нічога, да чаго намаўляюць з 11.01. (да 15.01.); не запрашай сваякоў. Да 10.01. час на прафесійны развой — падарожжы, вучоба, экзамены. 6-11.01. абмінай курцоў.

**(21.04. — 21.05.)** 6-10.01. здабудзеш большую самастойнасць, карысна зменіш працу. 7-12.01. можаш атрымаць павышэнне або немалую прэмію. Больш жыццярадаснасці, забавы, радасці. Лепшае паразуменне з людзьмі. Удачлівасць! Ад 11.01 здабывай веды, плануй на доўгі час. Маеш цяпер «дрыг» да заблення, а нават выйгранне немалых грошай — асабліва 7-11.01.!

**(22.05. — 22.06.)** Не шукай лёгкіх вырашэнняў. Пастарайся абмінаць жыццёвыя пасткі. Праблемы з выказваннем думак, пачуццёвыя турботы. Ненайлепшы час на наладжванне знаёмстваў. Змучаць і знеахвоцяць нават штодзённыя абавязкі. З працай таксама не рызыкуй, калі не маеш поўнай карціны сітуацыі, найбольш 6-12.01., асабліва калі думаеш перайсці да канкурэнцыі. На размову з шэфам ідзі 6-8.01., добра падрыхтаваны.

**(23.06. — 23.07.)** Прыйдзецца перамагчы табе шмат перашкод і ворагаў, пакуль дойдзеш да мэты. Але дасі рады — спрыяюць табе зоркі. Самотны Рак можа для кагосьці страціць галаву. Будзе важная бяспека — узмацні дзверы, застрахуйся. На працы падзялі заданні на этапы, не пературамляйся. 12-14.01. усё спрыяе добрай арганізацыі; не бяры да сэрца пачутых прыкрых слоў. Эмоцыі разгружай фізічным высілкам.

**(24.07. — 23.08.)** Няхай эмоцыі не заслоняць табе розуму! Сцішыся, і знойдзеш спосаб на вырашэнне праблем. Можаш, аднак, апынуцца ў няясных сітуацыях. 6-10.01. пазмагайся за лепшую пасаду. З 8.01. (да 15.01) даведаешся праўды пра тваю пару. 7.01. пагражаюць табе канфлікты з атачэннем. Бярыся за розныя заданні — будзеш у выйгрышы. Ільвы з апошніх дзён знака асабліва ўдачлівыя. 7-9.01. будзь вельмі ўважлівым для свайго здароўя і жыцця.

**(24.08. — 23.09.)** 6-8.01. адкрыеш для сябе новыя зацікаўленні. Добры настрой. Няцяжкае здзяйсняннe мараў. Многа сімпатыі і новых знаёмстваў. 7-12.01. эратычныя спакусы і забава. Пры захаплялыным знаёмстве пільнуйся, каб не была гэта асоба падобная да твайго былога кахання. Трымайся далёка ад эмацыянальных шантажыстаў! 12-14.01. шчыра паразмаўляй, але не раздзіраючы старых ран. Будзеш працаваць за двух і гэта будзе ацэнена. 6-8.01. лягчэйшыя негацыяцыі і пакупкі, асабліва праз сеціва. Схадзі да цырульніка, касметолага, дантыста.

**(24.09. — 23.10.)** Дзякуючы трапным выбарам здабудзеш большую свабоду дзеянняў і адкрыеш новыя перспектывы. 7-11.01. нябдага заробіш. 7-15.01. радыкальна вырашыш адносіны ў пары. Крытычна глянеш на шмат спраў; зможаш шмат што змяніць. 11.01. (да 15.01.) можа выбухнуць пачуццё. На працы зрабі спісак «за» і «супраць». 7-11.01. можа нарадзіцца новая форма супрацоўніцтва. Шчасце ў фінансах.

**(24.10. — 22.11.)** Можаш рэалізаваць найамбітныя мэты. Добрыя задумы (11-17.01.), падтрымка сяброў. Збярэшся з сіламі і пакажаш тое што можаш. Але хтосьці каля 7.01. схоча «падкласці табе свінню». На працы будзь засяроджаным. Схочацца рызыкнуць Скарпіёнам з другой дэкады і нават заняцца сваім бізнесам (да 9.01.). Паявяцца большыя фінансавыя патрэбы. 7-12.01. можа хораша папрaвіцца тваё здароўе.

**(23.11. — 22.12.)** 7-9.01. твае турботы акажуцца беспадстаўнымі. 7-11.01. можаш рэкамендаваць сябе з найлепшага боку. З 11.01. (да 15.01.) пазбягай падазроных інтарэсаў. З 12.01. магчымыя канфлікты з калегамі. Правярай даныя, інфармацыі. Не рабі нічога без плана. Можаш у студзені больш зарабіць. Знюхаеш добры інтарэс! Адкапаеш старыя задумы. Цёпла апранайся.

**(23.12.—20.01.)** 7-11.01. можаш атрымаць нейкую большую суму; можа пачацца новы этап твайго пачуццёвага жыцця. 7-12.01. можаш закахацца, невыпадкова. Не лянуйся, не адкладвай нічога на пасля. Аж да 17.01. распешчвае цябе Венера. Шчаслівы час запоўнены сустрэчамі ў файнай кампаніі. Добрая кандыцыя.

**(21.01. — 19.02.)** Усё пачне ладзіцца па тваёй думцы. 7-9.01. прыйдзецца пазмагацца за сваё. 12-14.01. трываласць і дысцыпліна прынясуць добры плён. Але кантралюй выдаткі, незалежна ад таго колькі зарабляеш. Будзь вельмі ўважлівым на дарозе. І не мерзні.

**(20.02. — 21.03.)** 6-7.01. не рызыкуй. Даб'ешся таго, да чаго імкнешся, прытым захаваеш прыязныя адносіны. Сіла і адвага — не будзе на цябе моцных! Упартасць, заўзятасць. Але і дарога да прыгожых, рамантычных перажыванняў. Добры час для рамантычных сустрэч. Шанцы на спантанныя гарачыя хвіліны (7-14.01.). Дасі рады з непрыемнымі, цяжкімі занятками. Рыбы з другой дэкады 7-9.01. даб'юцца ўсяго чаго хочуць. Добра наядайся, пі сок з маліны і чорнай бузіны.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# Спадчына вялікага князя Вітаўта

Звыш сарака гадоў таму Мікола Гайдук быў пісаў: „Гэтае сяло няцяжка знайсці на карце; яно ляжыць у 4-5 кіламетрах на паўночны захад ад мястэчка Нарвы ў Гайнаўскім павеце, на правым беразе ракі Нарвы, злева ад шашы Нарва — Заблудаў". Гэтым сялом з'яўляюцца Анцуты, якія са згаданай шашы выглядаюць быццам Месяц: відаць толькі адзін бок гэтай вёскі...

Падаўся я тады на другі канец вёскі, слушна прадбачваючы, што выходзіць ён на раку; там кладка ў напрамку Нарвы. Акурат стаяла пара дажджавога паўнаводдзя, драўляная кладка паказалася мне настолькі слізкай, што з яе лёгка пакатых дошак можна было пакаўзнуцца і бухануць у ледавітае цячэнне паўнаводнай ракі. Ды і сенажаці запар са сцежкай у напрамку Нарвы стаялі пад вадою; трэба было асадзіць назад.

Побач дзейнай кладкі ляжалі элементы ранейшай кладкі, якую ў крыгаходнае паўнаводдзе згарнула рачная стыхія. Кладку збудавалі самі жыхары Анцутаў, а драўніну на яе пабудову дала гміна з гміннага лесу. Кладка вельмі выгадная жыхарам Анцутаў, бо па ёй у Нарву толькі адзін кіламетр, калі па кругалёвай шашы ў пяць разоў больш...



Кладка з Анцут у Нарву

Эпітафія фон Модляў

Польскі геральдык Каспар Нясецкі пісаў у 1839 годзе: „Leon Ancuta w r. 1394. od Witolda Kiejstutowicza Książęcia Litewskiego otrzymał nadaniem za wierne swe wojenne usługi, dobra ziemskie Ancuta zwane, w powiecie Bielskim, wojew. Podlaskim nad Narwą rzeką, tudzież na Białej i na Woronowiu grunta w różnych nomenklaturach: po śmierci zaś tego Książęcia, brat jego rodzony Zygmunt Kiejstutowicz wstąpiwszy na to Księstwo Litewskie, nadanie to Księcia Witolda, uroczyście bez naruszenia w r. 1432 na wieczne czasy, dla nich, a ich potomków i całego imienia, potwierdził, których to dóbr aż do dziś dnia potomkowie ich w dziedzictwie używają". А Зыгмунт Глогер у сваёй „Старапольскай энцыклапедыі": „Ancuta, herb. Na tarczy w polu błękitnem strzała złota, skierowana w górę; obok strzały z prawej strony złota gwiazda, z lewej — księżyc złoty w nowiu, rogami zwrócony ku strzale. Nad tarczą bez hełmu zwykła korona szlachecka. Witold wielki książę litewski herb ten wraz z dobrami miał nadać za waleczność w r. 1394 Leonowi Ancucie".

„Справочный энциклопедическій словарь" з 1847 года: „Анцута — древній литовскій дворянскій родъ. Изъ него Левъ получилъ въ 1394 г. это имя отъ поместій, данныхъ ему литовскимъ княземъ Витольдомъ Кейстутовичемъ за воинскія заслуги". І там жа пра аднаго з прадстаўнікоў роду: „Анцута Георгій Казиміръ — референдарій великаго княжества Литовскаго, каноникъ виленскій; обладалъ необыкновенными способностями въ делахъ государственныхъ. Его сочиненіе Jus plenum religionis catholicae in regno Poloniae et Magno Ducatu Lithuaniae etc., Vilna 1729 г. имело такое вліяніе на Поляковъ, что на гродненскомъ сейме не только запрещено всемъ иноверцамъ присутствовать на сеймахъ и сеймикахъ, но вообще они были признаны неспособными къ отправленію государственныхъ должностей". Партал spadchyna.net: „У гэтым творы А[нцута] абвяргаў законнасць тых рашэнняў соймаў Рэчы Паспалітай, якія ў перыяд уздыму рэфармацыйнага руху абвяшчалі верацярпімасць і пацвярджалі розныя правы дысідэнтаў. Спасылаючыся на Біблію, папскія булы і соймавыя пастановы 17 ст., ён імкнуўся даказаць, што праваслаўныя і пратэстанты паводле боскага, царкоўнага, цывільнага і палітычнага права з'яўляюцца ерэтыкамі і таму павінны быць пазбаўлены ўсіх цывільных і палітычных правоў. Сялянскія казацкія паўстанні, змовы і падпалы ён лічыў справай рук дысідэнтаў. Свой твор А[нцута] заканчваў заклікам да караля, сената і шляхты весці свяшчэнную барацьбу з дысідэнтамі...".

Некаторыя крыніцы падаюць, што згаданы Лявон Анцута выводзіўся з татараў. Энцыклапедыя Вялікага Княства Літоўскага: „Асаблівую апеку татарам аказваў Вітаўт, які разлічваў на іх як на ўмелых коннікаў і сілу пераважна на заходніх межах дзяржавы і ў наваколлі буйных замкаў. У 1395 ён прыняў разбітага Цімурам хана Залатой Арды Тахтамыша. Шмат татараў пераселена ў ВКЛ у выніку сумеснага паходу Вітаўта і Тахтамыша пад Азоў (1397) і Крым (1398)". Яны былі размешчаны ў заходніх паветах Вялікага Княства...

Ежы Вісьнеўскі, даследчык засялення ўсходняй Беласточчыны, пісаў у 1977 годзе: „Władcy litewscy, aby umocnić swe panowanie na tych ziemiach, osadzili pod grodami i na szlakach głównych dróg pewną ilość wsi bojarów pochodzenia litewskiego i ruskiego, zobowiązanych do służby wojennej i zamkowej. Powstały osobne wysepki bojarskie litewsko-ruskie. Pod Mielnikiem tworzyła je wieś Moszczona, pod Drohiczynem Putkowice i Tonkiele, pod Bielskiem Hryniewicze i Bańki, pod Brańskiem Kiersnowo, Poletyły, Szpaki i może Szumki. Na drodze z Brześcia do Brańska Saki. Sporą też grupę stanowiły wsie położone za Narwią koło Suraża: Chodory, Szerenosy, Zimnochy, Kościany, Ostasze, Okstule, Hołówki, Borowskie-Makary, Leśna i może Horodniany. Może też w XV w. powstały na drodze do Grodna przez Narew Hwozna-Ancuty, Iwanki, Saki, Rohozy i Żywkowo".

Прыведзеныя вышэй даты крышку розняцца паміж сабою, ды нечаму дзівавацца, бо даўнія летапісцы запісвалі іх не на аснове нейкіх ранейшых дакументаў, толькі на аснове пачутага, а тыя чуткі, як то чуткі, неабавязкова былі строга дакладныя. Аднак мясцовасць заснавана даволі даўно і ейныя жыхары за той час прайшлі той жа шлях, што і іншыя баяры ВКЛ.

Мікола Гайдук: „Гэтыя баяры з бегам часу спольшчыліся і сталі дробнай польскай шляхтай, як Грынявецкія, Анцуты, якая часткова ўтварала маленькія польскія астраўкі сярод рускага насельніцтва. І далёкае рэха гэтага факту знайшло адбітак у Анцутах. Побач з вёскай некалі знаходзіўся тут фальварак Грынявіцкіх, а ў сямейнай традыцыі шматлікага тутэйшага роду Галашэўскіх захавалася легенда, што іх продкі былі шляхцічамі. Але зусім не шляхецкае жыццё было ў колішніх Анцутах. Людзі зімою займаліся вывазкай дрэва з лесу, а ўсю вясну і восень, калі на Нарве стаяла высокая вада, гналі арэльку. Вязалі бярвенні ў пасы недзе каля Нараўкі і спускалі па рацэ аж у Тыкоцін. Шмат хто ў вёсцы рыбачыў, але на сялянскі стол рыба трапляла надта рэдка, хіба розная дробязь і то толькі на каляды ды ў пасты. Усё, што лепшае, прадавалі нараўскім яўрэям-гандлярам. Ля вёскі на рацэ знаходзіўся перавоз і перавознікамі на ім былі Катовічы і Галашэўскія. Яшчэ пры царах людзі тут не ведалі іншага святла, як толькі лучыну. Для гэтага кожны гаспадар меў спецыяльнае прыстасабленне, званае дзедам. Быў гэта невысокі слупок на ножках знізу і ў верхняй частцы з разрэзамі, у якія ўтыкалі палаючую лучыну. Дзеда ставілі пасярод хаты і вакол яго прымошчваліся жанкі з верацёнамі і мужчыны з пляценнем пасталоў-лапцяў ці іншым заняткам. Едкі дым снаваў па хаце, выядаў вочы, клаўся тоўстым слоем сажы на столі і сценах...".

І яшчэ Мікола Гайдук: „Даволі глянуць на жоўтыя нараўскія пясчаныя плёсы, на пакручастую стужку ракі ды мігатлівую просінь шырокай надрэчнай даліны, каб пераканацца, які ж прыемны гэта куточак — старадаўнія Анцуты!"

Вяртаюся з Анцутаў і падаюся ў супрацьлеглы ад ракі бок, у згаданыя раней Сакі. Карціла мяне здаўна падацца ў гэтую недалёкую ад Трасцянкі вёску, якая, у адрозненне ад часта згадваных Сакоў, што каля Пасынак ці Сухавольцаў, прыхавалася на абочыне галоўных мясцовых дарог. Адкуль назва Сакі? Мала верагоднае ейнае паходжанне ад пражываючага калісь упамежжу з больш у нас вядомымі скіфамі іранскамоўнага качавога племені сакоў. Больш праўдападобнае паходжанне назвы вёскі ад вопраткі, якую калісь апраналі так жанчыны, як і мужчыны. Слоўнік польскай мовы: „Sak, męski płaszcz wiosenny lub letni. [...] Rodzaj luźnej szaty kobiecej...". Слоўнік беларускай мовы: „Сак, жаночая верхняя вопратка тыпу кароткага паліто". Сапраўды, у нашых вёсках жанчыны яшчэ нядаўна апраналі святочныя сачыкі...

Перад вёскай вывадны цэментны крыж пры дарозе ў прыходскую Трасцянку з 1949 года. У самой вёсцы шырокая вуліца, і тая шырыня нямнога меншая ад даўжыні. Пасярэдзіне вуліцы высокі крыж, а на ім высечаны мала чытабельны надпіс, здаецца „Благодать крестьянъ деревни Саков 1887 года 8 мая".

Калі я змагаўся з чытаннем заціранага Часам надпісу, з недалёкай хаты выйшла да мяне жанчына з мыліцамі. Завялі мы гутарку, з якой я даведаўся, што ў Саках зараз пражывае пастаянна яшчэ трынаццаць душ. Ёсць адно дзіця, па якое заязджае школьны аўтобус. А калісь з Сакоў трэба было хадзіць пяшком у школу ў Іванкі. Крыж абнавіў солтыс, салідна замацаваў жалезны крыж на гонкім цокале ды адвярнуў яго фронтам на поўнач; з поўначы цяпер праязная паласа бруку. Калісь людзі ездзілі з паўднёвага боку крыжа і ў тым напрамку быў ён скіраваны перадам.

Калі канчалі мы размову, з іншай хаты цяжкай паходкай выйшла іншая пажылая жанчына, пацікавіцца, што за падзея разгарнулася каля крыжа ў іхняй прыхаванай ад вонкавага свету вёсцы; падзея адметная ў шэрасці заміраючага вясковага жыцця. Калі я спытаў, ці дайду ў Бялкі дарогай напрасткі, жанчыны параілі мне падавацца жвіровым гасцінцам, па якім нямнога далей.

Каля скрыжавання дарог між Сакамі, Агароднікамі, Гознай і Бялкамі дзве магілы фон Модляў, даўніх уласнікаў агародніцкага маёнтка: бацькі Ота Фердынанда і сына Людвіка Станіслава. Партал Нарваўскай гміны: „Von Modlowie byli właścicielami ogromnego majątku ziemskiego, a ich dwór znajdował się koło wsi Ogrodniki. Otto Ferdynand von Modl kupił w XVIII wieku posiadłość składającą się z 4 folwarków tj. Hoźna, Cisy, Zaiwanki i Kąty. Zmarł w 1904 roku i został pochowany na własnej posiadłości obok skrzyżowania dróg Ogrodniki-Białki i Hoźna-Saki. Jeden z jego synów sprzedał część majątku, a mianowicie folwark Cisy i zamieszkał w Grodnie. Majątkiem zarządzał drugi syn Napoleon. W 1920 roku został on zastrzelony przez Rosjan. Wówczas wrócił z Grodna Ludwik (starszy syn) i zajął się gospodarowaniem. Zmarł on w 1928 roku i został pochowany obok ojca na rozstaju dróg... Dwór był okazały, pobudowany z modrzewiowych bali, kryty gontem... Po wojnie dwór został spalony, a ziemię rozdano ludziom...". Аўтары партала крышку, здаецца, перастараліся — Ота Фердынанд нарадзіўся ў 1828 годзе, купляючы маёнтак дзясяткі гадоў раней?..

У Бялках, у пачатку вёскі, пры лавачцы, затрымаліся тры пажылыя жанчыны. Акурат ад'ехала аўтакрама і яны знайшлі хвіліну, каб пагутарыць з сабою. Бо цяпер жа, здаецца, вясковыя пажылыя людзі каратаюць самотна свой час у сваіх чатырох сценах. І тая лавачка, каля якой запыняецца аўтакрама, адыгрывае цяпер ролю вясковага сходу, на якім абмяркоўваюцца важныя гэтай грамадскасці справы. Прыгожанькі абразок вясковага сейміка; на маю, аднак, прапанову ўвекавечыць гэты абразок на здымку ўсе згодна аднекваюцца, рэкамендуючы здымаць маладых. Адна з іх, маўклівая, нават паспешліва адыходзіць, бо ж ці вядома, чаго такі вонкавы валацуга можа натварыць... Але маладых у Бялках няма, шмат хат пустуе, мала асталося людзей. Затое ў гэтым канцы вёскі шмат катоў. Едуць гарадскія машынай, запыняцца за вёскай і выкінуць тую жывёліну, якая наогул лагодзіць стрэс, аднак здараецца, што дастаўляе розны клопат. Вось за плотам паказаўся харошы рыжы кот — гэта звярок адной з маіх субяседніц.

— Ён з Грэцыі, — паведамляе. — Унучка жыла там некалькі гадоў, а, з'язджаючы ў Польшчу, прыхапіла і яго, у Беласток. Аднак унучка нарадзіла праўнучку і трэба было забяспечыцца перад магчымай алергіяй. Тады ката — бабулі. А кот той абы-чаго не хоча есці: ні хлеба, ні булкі, ні супу, ні малака. Усё банкі трэба купляць. А аднойчы пакарміла яго звычайнай катлетай, то расхварэўся і было шмат турботы і ўсялякіх захадаў.

Жанчыны зацікаўлены ніўскім календаром, але газет, ні нашай, ні іншых, не чытаюць, бо калі крыху пачытаць, то зараз у вачах усё размываецца. Да лекара частка з іх прапісана ў Нарве, частка ў Заблудаве. Каб дастацца да таго ж лекара, трэба наймаць некага з машынай...

Быў час, калі ў Бялкі, Агароднікі, Іванкі заязджаў пэкаэсаўскі аўтобус, былі свае геэсаўскія крамы. А цяпер свет становіцца і больш мабільным, і менш мабільным — усё залежыць ад рэлятыўнага пункту гледжання.

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960